ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№12 (57) снежань 2015 год
CATHOLICNEWS.BY



# Каляднае віншаванне біскупа Алега Буткевіча

**Дарагія браты і сёстры ў Хрысце, паважаныя жыхары і госці нашай сінявокай Бацькаўшчыны!**

Хрысціянскі свет уваходзіць у святкаванне Вялікай Падзеі – Нараджэння Божага Сына. Падзея, якая перакрочвае межы часу, і мы не толькі ўспамінаем Нараджэнне Хрыста, мы зноў і зноў сустракаем з'яўленне Бога ў гэтым свеце. Такой ёсць наша вера. Вера ў Бога няспынна прысутнага сярод нас – сёння ўжо не ў выглядзе чалавека, але дзякуючы таму, што калісьці нарадзіўся як Чалавек, прагне заставацца з намі і ў нас. Мы – яго Святыня. Нашае цела – Ягоны Храм, а душа – Яго Уласнасць. Ці памятаем мы пра гэта сёння, калі столькі клопатаў паглынае наш час, а страх і непакой перапаўняюць душу? Ці можа разлічваць, стукаючыся сёння ў нашае сэрца праз сумленне, Божы Сын прынамсі на невялікі куток з халоднай падлогай, як у той Бэтлеемскай стайні? Ці для нас гэта неабыякава? І няхай не будзе нам перашкодай той факт, што нашае сэрца яшчэ не такое чыстае і ўтульнае. Хрыстос не прыйшоў, каб судзіць ці абвінавачваць нас. Ён прыйшоў ратаваць. Нам трэба толькі паверыць ў Яго бязмежную Міласэрнасць, у Яго вялікую Любоў, дзякуючы якой яшчэ існуе гэты свет. Гэта вельмі важна.

Мы павінны сёння абудзіцца як хрысціяне, падобна да тых пастушкоў, што на заклік анёлаў пайшлі шукаць Нованароджанага Збаўцу ў Бэтлееме, каб наша вера магла ўратаваць гэты свет ад бяды. Бо толькі вера ў Бога, Які ёсць Любоў, можа супрацьстаяць фанатызму, у імя чаго і сёння яшчэ забіваюць людзей. Спыніць гэта можа толькі ўсёпрабачальная Божая Міласэрнасць, якая дзейнічае праз тых, хто ў Яе паверыў.

Няхай святло Бэтлеемскай зоркі пакажа нам шлях да тых каштоўнасцей, якія падараваў нам Усемагутны праз Цуд у звычайнай палесцінскай стайні, а збуданае на іх жыццё хай нясе радасць і супакой усім людзям добрай волі. Радасці, святла і супакою ад Новanароджанага Збаўцы! Са святам!

+ Алег Буткевіч, біскуп Віцебскі

# Ці могуць асобы з абмежаванымі магчымасцямі прымаць Святую Камунію?



Адказ святара чытайце на старонцы 10

# "Мяне хрысціла баба Агата..."



Рэпартаж з Мікалаева чытайце на старонцы 8

# У чым прычына фінансавых скандалаў Ватыкана?



Чытайце на старонцы 5

## Увага!
## Падпіска на першае паўгоддзе 2016 года!

**Дарагія сябры!**
Заахвочваем вас падпісацца на "Каталіцкі Веснік".
**Кошт падпіскі:**
**на месяц – 8000 рублёў,**
**на 3 месяцы – 24000 рублёў,**
**на 6 месяцаў – 48000 рублёў.**
Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".
**Наш падпісны індэкс – 63783**
Дарагія браты і сёстры!
Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.



*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Прэзідэнт Лукашэнка разлічвае на сустрэчу з Папам Францішкам



**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка разлічвае на сустрэчу з Папам Рымскім Францішкам. Пра гэта кіраўнік дзяржавы заявіў 4 снежня ў час сустрэчы з Апостальскім нунцыем у Беларусі Клаўдыё Гуджэроці, якая адбылася ў сувязі з завяршэннем яго дыпламатычнай місіі ў нашай краіне, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

Прэзідэнт Беларусі папрасіў перадаць Папу Рымскаму, што чакае сустрэчы з ім. "У нас будзе пра што пагаварыць з гэтым паважаным чалавекам",– сказаў Аляксандр Лукашэнка. Ён высока ацаніў дзейнасць Клаўдыё Гуджэроці ў Беларусі: "Вы нас заўсёды падтрымлівалі. Мы з Вамі шмат зрабілі для ўстанаўлення добрых сувязей, і ў перспектыве, я думаю, мы зробім усё для таго, каб адбыліся мае сустрэчы з Папам Рымскім на самым высокім узроўні. Я яго вельмі паважаю. Чэрпаю інфармацыю са сродкаў масавай інфармацыі, з яго паездак, заяў. Пазіцыя яго мне падабаецца, пачынаючы ад павагі да найбяднейшых пластоў насельніцтва, барацьбы з карупцыяй, і таксама адносна сумленнасці і справядлівасці. Я рады, што сёння ў католікаў такі кіраўнік".

Аляксандр Лукашэнка таксама адзначыў: "Вы бачыце, што мы робім усё, каб у нашых католікаў было не горш, чым у іншых. Гэта і духоўная тэалагічная акадэмія, дзе мы павінны рыхтаваць сваіх святароў (а пакуль італьянцы нам дапамогуць). Мы з Вамі ўжо гаварылі пра гэта. Мы вітаем любога святара, які прыедзе на нашу зямлю і будзе паважаць наш народ, будзе працаваць у інтарэсах нашай дзяржавы, як гэта Вы заўсёды рабілі".

*БЕЛТА*

# Святары з Паўднёвай Карэі змогуць праводзіць набажэнствы ў КНДР

**Паводле справаздачы Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Паўднёвай Карэі пра візіт у Паўночную Карэю, дэлегацыя паўднёвакарэйскіх святароў будзе рэгулярна наведваць Пхеньян для правядзення каталіцкіх святаў і наладжвання пастаянных кантактаў з Каталіцкай асацыяцыяй Паўночнай Карэі.**

Імшы будуць адпраўляцца ў саборы Чханчхун у Пхеньяне, адзіным каталіцкім храме краіны.



**Чханчхунская каталіцкая катэдра ў ваколіцах Пхеньяна - адзіны адчынены касцёл у Паўночнай Карэі. У гэтай святыні няма ніводнага святара і ніводнага біскупа. Ён выкарыстоўваецца камуністычнымі ўладамі КНДР для паказных набажэнстваў перад турыстамі.**

Канстытуцыя Паўночнай Карэі гарантуе свабоду веравызнання, але фактычна адзіным дазволеным у краіне культам з'яўляецца культ асобы лідараў краіны («бацькі дзяржавы» Кім Ір Сена і яго сына Кім Чэн Іра), а вернікі ўсіх рэлігій падвяргаюцца пакаранню, аж да расстрэлу, за праяву «рэлігійных» паводзін.

У сталіцы Паўночнай Карэі існуюць чатыры царквы: дзве пратэстанцкія, адна праваслаўная і адна каталіцкая, але лічыцца, што яны з'яўляюцца часткай «фасаду», створанага для турыстаў. У краіне няма ніводнага каталіцкага ці пратэстанцкага святара або будысцкага манаха. У 2006 годзе былі высвечаныя два паўночнакарэйскія праваслаўныя святары.

Па сцвярджэннях Каталіцкай асацыяцыі Паўночнай Карэі, лік яе падпісчыкаў налічвае 3000 чалавек, аднак паводле ацэнак незалежных крыніц рэальная колькасць толькі 800 чалавек. У асноўным гэта пажылыя людзі, хрышчоныя яшчэ да вайны ў Карэі. Па асаблівых святах, напрыклад, на Каляды, вернікам дазваляецца абмяняцца віншаваннямі з «мірам», але не больш за тое.

*krynica.info*



# СМИ: предотвращено покушение террористов ИГИЛ на Папу Франциска

**Полиция Италии задержала четырех человек по подозрению в подготовке покушения на Папу Римского.**

По данным СМИ, подозреваемые имеют отношение к ИГИЛ. Действуя по рекомендациям ФБР, итальянская полиция совместно со своими коллегами из Косово 1 декабря 2015 г. арестовала четырех человек, которые подозреваются в подготовке покушения на Папу Римского Франциска, сообщило издание The Local.

Четверо подозреваемых в покушении на понтифика (все они уроженцы Косово) были арестованы после полицейских облав в нескольких итальянских городах и в Косово.

Выйти на след группы удалось благодаря перехваченным сообщениям в социальных сетях. В них пользователи писали, что Франциск будет «последним Папой». Группа, в которой общались подозреваемые, содержала также сообщения с угрозами в адрес американского посла в Косово и пропаганду экстремизма в Сети, пишет газета Daily Star.

У арестованных были также изъяты карты предполагаемых закладок взрывных устройств в нескольких местах непосредственно на площади Святого Петра.

После террористической атаки на Париж ИГИЛ 16 ноября выпустило видео, в котором утверждалось, что Рим и Вашингтон будут двумя следующими мишенями исламистов. Боевики ИГИЛ уже не в первый раз угрожают Папе Франциску. Во время его первого визита в Соединенные Штаты в сентябре этого года подросток из Пенсильвании, исповедующий идеалы ИГИЛ, был арестован по подозрению в планировании покушения на Папу Римского во время его визита в Филадельфию. Полиция при обыске в доме 15-летнего подростка нашла у него огнестрельное оружие.

*sib-catholic.ru*




# Фермер трактарам на полі намаляваў Хрыста

**Італьянскі фермер Дарыё Гамбарыні намаляваў трактарам карціну, прысвечаную Году Божай Міласэрнасці, які пачаўся ў Каталіцкім Касцёле.**

Яго новая работа памерам 24 тыс. квадратных метраў паказвае пакуты Хрыста. Пад карцінай – тэкст з нагоды юбілейнага году «Jubilaeum Misericordiae 2015-2016».

Раней гэты «палявы мастак» ужо маляваў партрэты знакамітых людзей, у тым ліку Папы Францішка і Нэльсана Мандэлы.

*katolik-gomel.by*

# Міністэрства культуры падтрымала ідэю адбудовы касцёла Святога Антонія ў Віцебску

**Міністэрства культуры падтрымала ідэю адбудовы касцёла Святога Антонія ў Віцебску. Пра гэта паведаміў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч падчас прэс-канферэнцыі ў Віцебскай катэдры, якая адбылася 9 снежня 2015 года.**

**Таццяна Смоткіна**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Раней храм Святога Антонія пабудовы XVIII ст. знаходзіўся на Ратушнай плошчы ў Віцебску і быў зруйнаваны ў 1940-я гады. На дадзены момант Касцёл распаўсюджвае інфармацыю пра архітэктурны ансамбль знішчанага храма.

Як зазначыў Яго Эксцэленцыя, у 2015 годзе значная ўвага надавалася ўрэгуляванню маёмаснага статусу – нерухомасці Касцёла – і інжынернай ацэнцы стану будынкаў. Была праведзеная вялікая праца, якая дазволіла даволі аб'ектыўна ацаніць матэрыяльнае становішча дыяцэзіі.

Па словах біскупа, у Віцебскай дыяцэзіі ўсе сакральна-культавыя будынкі належаць Касцёлу. Да нядаўняга часу будынак касцёла Святой Барбары, як і Чырвоны касцёл у Мінску, не належаў самой парафіі. Але гэтае пытанне было даволі хутка вырашанае, і ўлады без усялякіх перашкодаў аддалі будынак на баланс дыяцэзіі.

Таксама ў гэтым годзе было зроблена шмат працы, каб будынак касцёла Святога Антонія па вуліцы Гагарына ў Віцебску ўпрыгожыў яе сваім хараством. Акрамя капліцы, у будынку касцёла запраектаваная кіназала, якая будзе прыстасаваная для розных канцэртаў, фестываляў, прагляду фільмаў. Малітоўную залу ўжо ўпрыгожвае роспіс, выкананы мастаком Уладзімірам Кандрусевічам. І хоць праца яшчэ няскончаная, але вернікі ўжо чакаюць асвячэння храма. Яго Эксцэленцыя паабяцаў, што гэта адбудзецца ў хуткім часе, да ўрачыстасці ў гонар Святога Антонія, але, калі атрымаецца, можа, і раней.

У мікрараёне Білева ўзнікла новая парафія, пробашчам якой ужо прызначаны ксёндз Адам Дынак. У перспектыве ёсць надзея на хуткую пабудову касцёла ў гэтым раёне.

Біскуп Алег Буткевіч звярнуў увагу, што 2016 год абвешчаны Святым Айцом Юбілейным Годам Міласэрнасці. 8 снежня Папа Францішак здзейсніў абрад адкрыцця Святых Дзвярэй – Брамы Міласэрнасці ў базіліцы Святога Пятра ў Рыме. Унікальнасць гэтага года ў тым, што такія ж Брамы Міласэрнасці будуць адчыненыя ў кожнай дыяцэзіі па ўсім свеце. У Віцебскай дыяцэзіі яны адчыняцца 13 снежня ў катэдральным касцёле Езуса Міласэрнага непасрэдна ў Віцебску і ў санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе.

Напрыканцы прэс-канферэнцыі біскуп Алег Буткевіч падзяліўся з журналістамі аплаткай і павіншаваў прысутных з надыходам свята Божага Нараджэння. А таксама падарыў журналістам канцылярскія прыналежнасці з выявай касцёла Святога Антонія (XVII стагоддзе) і пажадаў поспехаў на творчай ніве.






# Для Каталіцкай акадэміі прапанаваны ўчастак у цэнтры Мінска

**Першая ў Беларусі Каталіцкая акадэмія будзе пабудавана ў Мінску на скрыжаванні вуліцы Філімонава з праспектам Незалежнасці, недалёка ад Нацыянальнай бібліятэкі, паведаміў на перадкаляднай прэс-канферэнцыі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.**


Раён меркаванага будаўніцтва Каталіцкай акадэміі ў Мінску.

Ён адзначыў, што гэта "вельмі добрае месца" і цяпер Касцёл чакае афіцыйных папер.

Нагадаем, 17 лютага Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Беларусі атрымала пасведчанне аб афіцыйнай рэгістрацыі Вышэйшай духоўнай навучальнай установы "Мінская тэалагічная акадэмія імя святога Яна Паўла II" Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь.

Акадэмія была зарэгістравана 13 лютага 2015 г. пад нумарам 193. Адметна, што ў апошні, трэці раз дакументы на рэгістрацыю былі пададзены 5 лютага, ва ўспамін святой Агаты, а рэгістрацыя была здзейснена 13 лютага ва ўспамін Маці Божай Фацімскай.

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч заклікаў даручыць новазарэгістраваную акадэмію апецы Маці Божай Фацімскай, з якой звязана духоўнае адраджэнне беларускага народа, і святому Яну Паўлу II, каторы распачаў ажыццяўленне гэтага адраджэння паводле фацімскага паслання.

Акадэмія будзе развівацца ў двух напрамках: у якасці семінарыі для падрыхтоўкі святароў і тэалагічнай студыі для свецкіх людзей, у межах якой будуць вывучацца і іншыя навукі.

*katolik-gomel.by*

Каталіцкі ВЕСНІК
№12(57)
снежань 2015 г.



| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Наваполацк | 2 | 1 | Полацк | 2 | 1 |
| Глыбокае | 34 | 21 | Дуброўна | 2 | |
| Докшыцы | 18 | 11 | Мядзел | 3 | |
| Шаркаўшчына | 32 | 10 | Мёры | 6 | 5 |
| Гомель | 14 | | Мінск | 1 | |
| Браслаў | 22 | 9 | Вілейка | 2 | 1 |
| Іўе | 4 | 5 | Ліда | 4 | 2 |
| Верхнядзвінск | 2 | 1 | Смаргонь | 1 | 2 |
| Паставы | 31 | 13 | Масты | 1 | 2 |
| Шчучын | 1 | 4 | Расоны | 1 | |
| Валожын | 6 | | Шуміліна | | 3 |
| Маладзечна | 3 | 2 | Гродна | | 1 |
| Астравец | 1 | 7 | Скідзель | | 4 |
| Барысаў | 4 | 2 | Брэст | | 1 |
| Віцебск | 1 | 8 | Бабруйск | | 1 |
| | | | Узда | | 2 |




# Слова ад рэдактара

**Дарагія сябры, дарагія браты і сёстры – чытачы "Каталіцкага Весніка"! Адыходзіць ужо 2015 год у гісторыю. Ён забярэ з сабою радасныя і сумныя моманты з нашага жыцця. Азіраючыся назад, мы будзем нечаму вучыцца, нешта планаваць і на нешта спадзявацца.**

## Каму дзякаваць?

Калі мы кажам пра год, які пражыла рэдакцыя, то найперш у мяне ўзнікаюць думкі са словамі ўдзячнасці. Я дзякую Міласэрнаму Богу, што сваімі натхненнямі накіроўвае нас у журналісцкай і выдавецкай дзейнасці. Менавіта дзякуючы Духу Святому з'яўляюцца тыя ці іншыя праекты "Каталіцкага Весніка", якія дапамагаюць нам больш вынікова расказваць людзям пра Хрыста і Яго Касцёл.

Я таксама вельмі ўдзячны калектыву нашай рэдакцыі за ахвярную працу на карысць евангелізацыі. Я дзякую тым, хто карпатліва правярае і карэктуе тэксты, хто адмініструе сайт Catholicnews.by – нашую анлайн-версію газеты, тым, хто здымае відэаматэрыялы, робіць мантаж, працуе над гукам, стаіць з мікрафонам ці перад камерай, фатаграфуе і апрацоўвае здымкі і хто вярстае старонку за старонкай, каб рубрыкі Весніка былі прыцягальнымі і цікава аформленымі. Я спецыяльна не пералічваю імёнаў нашых супрацоўнікаў, таму што вельмі часта так бывае, што мы мяняемся функцыямі ў рэдакцыі, падтрымліваем адно аднаго і дапамагаем адно аднаму, выконваючы самую разнастайную працу.

Аднак хоць я смела называю нашых журналістаў скарбам газеты, я перакананы, што наш праект не адбыўся б, калі б не вы, дарагія чытачы. Гэта вы выпісваеце нашу газету, вы тэлефануеце і пішаце ў лістах словы падтрымкі, вы дасылаеце ў рэдакцыю ахвяраванні. Я бязмежна ўдзячны кожнаму з вас за цікавасць да каталіцкай прэсы і за разуменне актуальнасці Божага слова сёння.

## Крыху статыстыкі

Вышэй вы можаце бачыць інфаграфіку, якая паказвае колькасць ахвяраванняў, дасланых у рэдакцыю за 2015 год. Як добра бачна, бясспрэчны лідар у гэтай справе – Віцебская дыяцэзія, з якой нам даслалі сёлета 153 ахвяраванні. Я хацеў бы таксама асобна падзякаваць тым нашым чытачам, якія дасылаюць у рэдакцыю свае ахвяраванні штомесяц ужо не адзін год. Гэта Леанід Грыбач з Гомеля, Веранiка Абуховiч з Дунілавічаў, Яніна Дулінец з Савуткаў, Соф'я Машара з Шаркаўшчыны і Вольга Парнвіч з Крулеўшчыны.

Акрамя таго, мне вельмі радасна, што нашыя чытачы адгукнуліся на рубрыку "Газетная закрыстыя" і дасылаюць імшальныя інтэнцыі для святароў, якія працуюць у невялікіх парафіях і маюць патрэбу ў падтрымцы. За 2015 год мы атрымалі ў рэдакцыі 119 інтэнцый. Найбольшая колькасць была дасланая з Віцебскай дыяцэзіі – 83 інтэнцыі. На другім месцы ідзе Гродзенская дыяцэзія з колькасцю 27 інтэнцый. Інтэнцыі з рубрыкі "Газетная закрыстыя" адпраўлялі святары ў наступных парафіях Віцебскай дыяцэзіі: Дубpоўна, Расоны, Празарокі, Порплішча, Бешанковічы, Пагошча і Лепель.

**Колькасць ахвяраванняў і інтэнцый па абласцях у 2015 годзе**




## Ад самога сэрца

Дарагія сябры! Дазвольце з нагоды свята Божага Нараджэння пажадаць вам непахіснай веры, надзеі і вялікага духоўнага плёну. Сённяшні свет не заўсёды можна назваць бясхмарным і радасным. Вельмі шмат у ім трагедый і катастрофаў. Аднак жадаю вам, дарагія нашы чытачы, толькі радасных навін! Няхай 2016 год, які надыходзіць, будзе для вас поўны прыемных і шчаслівых момантаў! Памятаючы пра словы Папы Францішка, які аб'явіў Год Міласэрнасці, хачу таксама пажадаць вам добразычлівасці, цярплівасці і салідарнасці. Будзьце міласэрнымі. І вы спазнаеце міласэрнасць (пар. Мц 5, 7).

*Кс. Віктар Місевіч,*
*галоўны рэдактар "Каталіцкага Весніка"*

## Калядная песня




2. Святлее святасцю душа,
Святлее Божым Нараджэннем,
Пастом, малітвай і цярпеннем –
Святлее святасцю душа.

**Прыпеў**

3. Ты, найярчэйшая між зор,
Свяці нам, зорка Віфліема!
І пакажы нам шлях да неба
Ты, найярчэйшая між зор!

**Прыпеў**

# У чым прычына фінансавых скандалаў Ватыкана?

**Каталіцкі Касцёл, які працягвае ў свеце збаўленчую місію Езуса Хрыста, рэалізуе сваё пакліканне ў канкрэтных формах. Цэнтрам структуры Касцёла ў свеце з'яўляецца Дзяржава Ватыкан на чале з Папам Рымскім, які мае ў гэтай дзяржаве найвышэйшую ўладу. Для забеспячэння паўнавартаснага функцыянавання ўсіх сфераў служэння Касцёла ў свеце існуюць таксама іншыя структуры.**

**а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*

## Колькі грошай у Банку Ватыкана?

Перыядычна ў навінах з'яўляюцца паведамленні пра банк Ватыкана. Узгадваецца гэтая ўстанова найчасцей у кантэксце абвінавачвання ў непразрыстасці вядзення фінансавых справаў і падазрэння ў карупцыі і адмыванні грошай. Банк Ватыкана (афіцыйная назва – Інстытут рэлігійных спраў) быў заснаваны падчас Другой сусветнай вайны для таго, каб кіраваць актывамі рэлігійных асоб і ўстаноў. Галоўная задача банка – забеспячэнне фінансавання каталіцкіх арганізацый па ўсім свеце. Банк таксама назапашвае зберажэнні, каб пазбегнуць патрэбы атрымання сродкаў, здабытых спосабамі, якія супярэчаць вучэнню Касцёла. Інстытут рэлігійных спраў падтрымлівае сувязі з 35 замежнымі банкамі ва ўсім свеце. Праз іх Ватыкан ажыццяўляе казначэйскую дзейнасць на служэнне Каталіцкага Касцёла. Банк аперуе амаль 6 млрд. еўра, што адносна няшмат для ўстановы такога тыпу.

## Вытокі фінансавага скандалу

Адзін з апошніх найбольш гучных скандалаў адбыўся ў верасні 2010 года, калі фінансавая паліцыя Італіі канфіскавала з рахунку італьянскага банка Credito Artigiano 23 мільёны еўра, якія належалі Інстытуту, а таксама арыштавала дырэктара Інстытута Эторэ Гоці Тадэскі паабвінавачванніўадмыванні грошай. Ужо ў чэрвені 2011 года канфіскацыя згаданай сумы была адкліканая па рашэнні суда, аднак рахункі заставаліся заблакаванымі.

Дадзены прэцэдэнт стаў прычынай таго, каб Камітэт экспертаў Савета Еўропы па ацэнцы мераў барацьбы з адмываннем грошай і фінансаваннем тэрарызму ("MONEYVAL") узяўся за праверку працы банка Ватыкана, каб вызначыць, ці прытрымліваецца банк міжнародных стандартаў пры правядзенні аперацый. У 2012 г. быў апублікаваны першы даклад аб ацэнцы дзейнасці Святога Пасаду ў гэтых напрамках.

## Што сказалі эксперты Савета Еўропы?

У дакуменце асобна звярталася ўвага на сітуацыю Дзяржавы Ватыкан. Было падкрэслена, што мэтай экспертызы "MONEYVAL" не было расследаванне якіх-небудзь абвінавачванняў з мінулага або аўдыт канкрэтнай фінансавай установы. Эксперты старанна ацанілі эфектыўную рэалізацыю міжнародных стандартаў у Ватыкане, у тым ліку ў Інстытуце рэлігійных спраў – Ватыканскім банку. Вынікам дзейнасці спецыялістаў арганізацыі стаў перагляд першай рэдакцыі ватыканскага закона аб барацьбе з адмываннем грошай і фінансаваннем тэрарызму і прыняцце зменаў да яго ў адпаведнасці з рэкамендацыямі Камітэта.

У сваім дакладзе Камітэт экспертаў сцвердзіў, што Святы Пасад прайшоў "доўгі шлях за вельмі кароткі перыяд" па адаптацыі свайго заканадаўства да міжнародных стандартаў. У працэсе правядзення працы па ўдасканаленні фінансавай сістэмы Ватыкана 24 чэрвеня 2013 г. Папа Рымскі заснаваў Папскую камісію па Інстытуце рэлігійных спраў, якая занялася падрабязным вывучэннем прававога становішча Ватыканскага банка для лепшай узгодненасці працы гэтай структуры з патрэбамі паўсюднай місіі Святога Пасаду.

## Рашэнне Папы Францішка

24 лютага 2014 г. Папа Францішак прыняў рашэнне стварыць новую структуру для каардынацыі эканамічнай і адміністрацыйнай дзейнасці Святога Пасаду і Дзяржавы Ватыкан. Новы орган, пакліканы кансалідаваць існуючыя ватыканскія фінансавыя структуры і спрасціць кіраванне імі, атрымаў назву "Сакратарыята па эканамічных пытаннях".

Сакратарыят уводзіць у жыццё агульнапрынятыя стандарты бухгалтарскага ўліку, фінансавага кіравання і справаздачнай практыкі, а таксама займаецца павышэннем унутранага кантролю і празрыстасці фінансавых спраў. Новы орган адказвае, між іншым, за планаванне штогадовага бюджэту Святога Пасаду і Ватыкана, а таксама за падрыхтоўку падрабязнай фінансавай справаздачы. Сакратарыят па эканамічных пытаннях рэалізуе дырэктывы, сфармуляваныя іншым новым органам – Радай па эканамічных пытаннях.

> **"справа палягае найперш у недасканаласці юрыдычнай базы Дзяржавы Ватыкан, якая пакідае прабелы і робіць Банк Ватыкана, як і любую іншую фінансавую ўстанову, уразлівым на злоўжыванні"**

## Аўдыт і прагрэс

8 снежня 2015 г. на пленарным пасяджэнні "MONEYVAL" у Страсбургу быў зацверджаны "Другі даклад аб ходзе работы" (Second Progress Report) адносна Святога Пасаду і Дзяржавы Ватыкан, што з'яўляецца часткай звычайнага працэсу справаздачнасці, прадугледжанага правіламі Камітэта экспертаў для ўсіх дзяржаў-чальцоў.

"MONEYVAL" станоўча ацаніў вынікі намаганняў Святога Пасаду і Дзяржавы Ватыкан у мэтах далейшага ўмацавання іх інстытуцыйнай, прававой і аперацыйнай асновы для барацьбы з адмываннем грошай і фінансаваннем тэрарызму, гаворыцца ў спецыяльнай заяве. Даклад пацвярджае, што Апостальская Сталіца стварае функцыянальную, устойлівую і эфектыўную сістэму, скіраваную на прадухіленне і барацьбу з фінансавымі злачынствамі, сказаў а. Антуан Камілеры – падсакратар па адносінах Святога Пасаду з дзяржавамі і кіраўнік ватыканскай дэлегацыі на пленарным пасяджэнні Камітэта экспертаў Савета Еўропы.

Такім чынам, калі гаворка вядзецца пра недасканаласць фінансавай сістэмы Ватыкана і падазрэнні ў карупцыі і адмыванні грошай, неабходна разумець, што справа палягае найперш у недасканаласці юрыдычнай базы Дзяржавы Ватыкан, якая пакідае прабелы і робіць Банк Ватыкана, як і любую іншую фінансавую ўстанову, уразлівым на злоўжыванні. З боку Касцёла прымаюцца ўсе патрэбныя захады для ўдасканалення сістэмы, у тым ліку з запрашэннем да працы міжнародных экспертаў.



# Біскуп Алег Буткевіч адчыніў Брамы Міласэрнасці ў Віцебску і Браславе

**У нядзелю, 13 снежня, у Дыяцэзіяльным Санктуарыі Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе біскуп Алег Буткевіч урачыста адчыніў Браму Міласэрнасці.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Само набажэнства пачалося працэсіяй ад закрыстыі да галоўных дзвярэй. Уваходныя дзверы былі ўпрыгожаныя вянком і кветкамі. А ўверсе над самой брамай віднеўся банер з лагатыпам Года Міласэрнасці, які распачаўся ў Каталіцкім Касцёле 8 снежня.

Прамаўляючы Божае слова да вялікай колькасці вернікаў, біскуп падкрэсліў, што Год Міласэрнасці з'яўляецца ўнікальнай магчымасцю атрымаць адпуст або індульгенцыю. Немалаважна таксама, паводле слоў біскупа, звярнуць увагу на прабачэнне. Неабходна сёння навучыцца прабачаць самому сабе і свайму бліжняму.



Ля Марыйнага Санктуарыя ў Браславе.




Брама Міласэрнасці ў Віцебскай катэдры.

Пробашч і адначасова кусташ браслаўскага Санктуарыя айцец-сальватарыянін Станіслаў Мжыглуд заахвоціў людзей карыстацца магчымасцю атрымання адпусту. Ён сказаў: "Шчыра запрашаю ўсіх вернікаў з нашай дыяцэзіі прыехаць у Браслаў. Зрабіць гэта можна ў любы дзень, прыехаўшы прыватна ці ў якасці ўдзельніка групавой пілігрымкі. Касцёл наш адчынены кожны дзень, і кожны дзень ёсць магчымасць перажыць сакрамант споведзі. Будзем вельмі рады бачыць у нас пілігрымаў!"

Брамы Міласэрнасці ў Юбілейным годзе адчыніліся ва ўсіх дыяцэзіях свету. Гэта беспрэцэдэнтны жэст пастырскай апекі Святога Айца Папы Францішка, які булай Misericordie Vultus ад 11 красавіка 2015 года абвясціў Надзвычайны Юбілей Міласэрнасці і пастанавіў, што Брамы Міласэрнасці з'явяцца не толькі ў Рыме, але і ва ўсім свеце.

Варта нагадаць, што, акрамя Браслава, біскуп Алег Буткевіч 13 снежня адчыніў таксама Браму Міласэрнасці ў Віцебскай катэдры.

Умовы атрымання адпусту з нагоды Юбілею Міласэрнасці змяшчае дэкрэт біскупа Алега Буткевіча ад 4 снежня 2015 года.

Вернікі змогуць у гэтым Святым Годзе перажыць і атрымаць адпуст, адбываючы пілігрымку да Святых Дзвярэй, адчыненых у кожнай катэдры і ў вызначаных дыяцэзіяльным біскупам касцёлах, а таксама ў чатырох Папскіх Базіліках у Рыме. Гэты момант мае быць злучаны з Сакрамантам Паяднання і поўным удзелам у св. Імшы, а таксама з задумай над міласэрнасцю. Пасля праходу праз Святыя Дзверы, акрамя звычайных умоваў, вернікі будуць павінны затрымацца на малітве, каб споўніць апошнія акты, якія патрабуюцца: вызнанне веры і малітва за Папу, а таксама малітва ў папскіх інтэнцыях. Папа Францішак прызнаў таксама магчымасць атрымаць адпуст паводле стану сэрца асобам хворым, у вязням і кожнаму, хто асабіста спаўняе справу міласэрнасці. Юбілейны адпуст можна будзе атрымаць таксама для памерлых (пар. Misericordie Vultus).

# Спеў душы

**Браслаў**

**Праз песню ўзносіць сваю малітву Богу хор браслаўскага касцёла Нараджэння Маці Божай.**

■ **Тамара Пашкевіч**



Кожную нядзелю і на святы парафіяне радуюцца шматгалоссю яго спеваў. Пачуць і ацаніць майстэрства хору змаглі шматлікія пілігрымы, католікі з іншых парафій Беларусі, прадстаўнікі іншых канфесій, проста людзі цікаўныя, якія збірае ў жніўні на свята Маці Божая Браслаўская. Магутнае "Ave Maria..." не пакідае нікога абыякавым, перапаўняе сэрцы любоўю і радасцю.

Ужо многа гадоў хорам кіруе чалавек, якога Бог надзяліў дарам таленавітага спевака і музыканта – арганістка Іна Эдуардаўна Сапун. Яна з дзяцінства была ўдзельніцай касцельных літургічных спеваў пад кіраўніцтвам настаўніцы (святой памяці) арганісткі Разаліі Марцілёк, а пасля стала кіраўніком і арганізатарам парафіяльнага хору. Сталела з ім з гадамі, расла ў прафесійным плане, у чым дапамагла трохгадовая вучоба ў школе арганістаў пры Рыжскай Духоўнай семінарыі.

Да арганісткі і катэхеткі Іны заўсёды гарнуліся моладзь і дзеці, і таму 35 маладых асоб з нашай парафіі сталі ўдзельнікамі Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа", з якога вярнуліся лаўрэатамі.

Дзеці і моладзь заўсёды актыўна ў розных намінацыях прымалі ўдзел у браслаўскім фестывалі духоўнай песні «Як птушка будзь, імкніся сэрцам данябёсаў», якізбіраўдзясяткі выканаўцаў і быў прыкметнай з'явай у духоўным і культурным жыцці краю, у конкурсе "Зорка Бэтлеема", што ўжо некалькі гадоў ладзіцца ў Мёрах. Таксама ў мінулагоднім конкурсе нашы юныя салісткі зачаравалі журы і слухачоў і ў сваіх намінацыях былі прызнаныя найлепшымі выканаўцамі.

Упершыню бліснуў на сцэне гэтага конкурсу і ансамбль юнакоў „Alis angeli" ("Крылы анёлаў"), які сёння ўжо добра вядомы маладым браслаўчанам. Ён быў другім на раённым конкурсе міжкультурных камунікацый, з задавальненнем прымае ўдзел у моладзевых канцэртах.

Дарэчы, хор нібы дружная сям'я, якая збіраецца на святы. Яны разам у радасцях і ў цяжкія дні. І кожнага новага чалавека сустракаюць прыязна. Пэўна, таму навічкі лёгка ўліваюцца ў шматлікі калектыў, з ахвотай рэалізуюць дадзены Богам талент.

Ад шчырага сэрца дзякуем кожнаму ўдзельніку хору за бескарысную працу на хвалу Божую і для духоўнага дабра людзей!

Жадаем вам натхнення, здароўя, асаблівай апекі Маці Божай Валадаркі, духоўнага і колькаснага росту, а кіраўніку хору – працавітай, таленавітай і адданай сваёй справе жанчыне – творчых задум і, безумоўна, іх рэалізацыі!

Нэля Лось, *Лынтупы*

# Чакаем…

**Хутка запалае на небе Бэтлеемская зорка. І на ззянне гэтага незвычайнага святла, да маленькага бездапаможнага скрутачка ў змроку халоднай стайні, пацягнецца просты люд, а разам з імі паспяшаюцца тры мудрыя мужы з дарагімі дарамі. Ім вядома тайна гэтага незвычайнага Дзіцяці! Праз яго Бог пачынае ствараць самы вялікі цуд на Зямлі…**

Божыя планы зусім не падобныя да нашых штодзённых жыццёвых клопатаў. Іншы раз яны зусім незразумелыя чалавечай логіцы. Не абавязкова ўглядацца ў неабсяжныя нябесныя прасторы і чакаць гэтых цудаў. Лепш уважліва паглядзець вакол сябе на тых, хто побач з намі. І нават на тых, хто знаходзіцца на абочыне жыцця з кляймом п'яніцы, турэмшчыка, гультая, дэбашыра… А можа, яны не такія ўжо непатрэбныя і чакаюць нашай дапамогі? Успомнім словы Езуса: "Сапраўды кажу, што зрабілі вы аднаму з братоў Маіх найменшых, тое Мне зрабілі" (Мц. 25, 40).

Так сказаў наш паважаны ксёндз-пробашч Павел Кнурэк у літургічным слове 8 снежня на ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця НПМ, абвяшчаючы аб пачатку Юбілейнага Году Міласэрнасці ў Каталіцкім Касцёле ва ўсім свеце.

Уважліва, як быццам зазіраючы ў глыбіню сваіх сэрцаў, слухалі парафіяне такія простыя і такія кранальныя, вельмі важныя словы пробашча. Ён казаў нам, што надыходзіць час спатканння з Панам, што неабходна адкрыць дзверы нашай душы, ачысціўшы яе праз споведзь і пакаянне, напоўніўшы яе радасцю ад добрых спраў.

Выйшаўшы з касцёла, хацелася паглядзець у вочы сваіх блізкіх, папрасіць прабачэння за розныя недарэчнасці, ці падзякаваць за ласку, клопат і спагадлівасць, наведаць хворага суседа, паспачуваць сям'і вязня, атуліць малітвай тых, хто з-за памылак ці грахоў пазбаўлены магчымасці спазнаць збаўчую сілу святых сакрамантаў. Добрую справу, якая набліжае цябе да Бога, можна пачаць у любую хвіліну!

А тым часам нячутнымі крокамі ў снежаньскіх днях, кароткіх і змрочных, халодных зорных начах, у цёмных ранках, асвечаных агеньчыкамі раратніх свечак, ідзе па Зямлі Адвэнт. Мы чакаем Немаўля, Якога прынясе ў гэты свет Панна – чыстая і нявінная. Імя Ёй – Марыя! У гэтым простым імеі біблейскі пыл і дыяменты двухтысячнай гісторыі хрысціянства. Яно як нябесны човен пераправы да новага шляху чалавецтва!..



# ФОТАФАКТ




**У Лідзе ў парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ўстанаўліваюць місійны крыж. Святыя місіі праходзілі з 22 па 29 лістапада. Праводзілі іх айцы-рэдэмптарысты: а. Андрэй Ядкоўскі з Вялікай Бераставіцы і а. Валерый Мазюк з Гродна (Дзевятоўка) па запрашэнні ксяндза Андрэя Агеля, пробашча парафіі. Больш інфармацыі чытайце на Catholicnews.by.**

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў ва ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |


Фаіна Бізунова

# "Мяне хрысціла баба Агата..."

**Некалькі разоў ужо мне давялося пачуць з вуснаў знаёмых святароў пра ўнікальны выпадак у іх душпастырскай дзейнасці. На пытанне: "Дзе Вас хрысцілі?" некаторыя вернікі адказвалі: "Мяне хрысціла баба Агата". Каб даведацца пра абставіны евангелізацыйнай дзейнасці гэтай свецкай жанчыны, накіроўваемся ў вёску Мікалаева, што ў Шумілінскім раёне Віцебскай вобласці. Там сустракаемся з дачкой бабы Агаты Фаінай Бізуновай.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Пані Фаіна адразу пачынае распавядаць пра сваю маці. "Мая мама нарадзілася ў 1900 годзе. Яе звалі Агата Літоўка[1]. Яна была вельмі рэлігійным чалавекам, нягледзячы на тое, што ўсё сваё жыццё пражыла ў атэістычны час. А ў нашай хаце пастаянна праводзіліся набажэнствы. На Вялікдзень начное чуванне рабілі, у нядзелю на ружанец збіраліся. Хоць паблізу і не было святара, але рэлігійнае жыццё не заняпала".

**– Раскажыце, калі ласка, як Вашая мама хрысціла дзяцей?**

– Яна рабіла ўсё згодна з вучэннем Касцёла. Галоўку палівала вадой (захаваўся нават маленькі збанок, які яна для гэтага ўжывала), хрысціла ў імя Айца, і Сына, і Духа Святога. Яна мела вялікую тоўстую свечку, прывезеную з Латвіі, і ад той свечкі запальвала маленькую і давала хросным. Я добра памятаю, бо сама часта, седзячы на печы, за гэтым назірала. Людзі да нас прыязджалі адусюль: і з Мінска, і з Віцебска, і з Гомеля. Гэта было зручна для іх, бо мама нідзе не запісвала факт хросту. Таму ніхто не баяўся, што будзе звольнены з працы за гэта. Палова Віцебскай вобласці ў нас пахрысцілася! Бывала, забудзецца маладая маці ўзяць беленькае адзенне для дзіцяткі, дык мая мама кажа: не перажывай, я табе дам. Дастане з шафы і аддасць для хросту. У яе заўжды было ўсё падрыхтавана.

**– А як ставіліся камуністычныя ўлады да такой апостальскай дзейнасці Вашай мамы?**

– Пужалі, папярэджвалі, капліцу палілі, але ў яе на ўсё адзін быў адказ: "Вы верце свайму камунізму, а я веру свайму Богу. Хоць вешайце, хоць страляйце, я верыла і буду верыць".

**– А якую капліцу палілі ўлады?**

– Гэта была капліца на могілках. Мама з парафіянамі будавала яе тройчы: у 1976-м, 1979-м і 1981-м гадах. І ўсе тры былі спаленыя камсамольцамі пакрыёма ўначы, аж пакуль у 1981-м годзе людзі не збудавалі чацвёртую капліцу, гэтым разам ужо з цэглы. Гэтыя капліцы моцна заміналі бязбожным уладам, бо ў нядзелю там збіраліся людзі. Не было святара, але быў алтар, быў крыж, і там праводзіліся малітвы. Мама пенсіі атрымлівала 18 савецкіх рублёў. Дык 15 аддавала яна на капліцу, каб яе збудаваць, а тры толькі пакідала сабе.

**– Вашая мама была такім мясцовым святаром у савецкія часы...**

– Дакладна так! Я памятаю, як да нас у 90-х гадах прыехаў ксёндз Уладзіслаў Блін, будучы біскуп. Сабралася шмат народу. Людзі пачалі пытацца: "Ойча, нас хрысціла баба Агата, ці трэба нам паўтараць хрост?" Тады ксёндз Уладзіслаў спытаў у мамы: "Раскажыце, як Вы хрысцілі дзяцей?" Мама яму ўсё дакладна расказала і паказала. Тады ён выйшаў да людзей і кажа: "Вам перахрышчвацца не трэба". Абняў маму і кажа ёй: "Баба Агата, ты мой ксёндз!"

**– Сапраўды, яе паслуга ў тыя часы проста бясцэнная!**

– Мама не толькі хрысціла дзетак. Яна двойчы на год ездзіла ў Краславу і Індру, што ў Латвіі, і завозіла туды інтэнцыі для святой Імшы. Як паедзе, то паўдня прабудзе з ксяндзом. Ён на кожнай паперцы пісаў дату, калі будзе адпраўлена св. Імша. Потым мама ўсе гэтыя інтэнцыі развозіла і аддавала людзям, каб яны ведалі, калі будуць за іх маліцца. Яна таксама спявала па нябожчыках. Уяўляеце, колькі гэта ахвярнасці трэба, каб маліцца трое сутак па памерлым?!

**– Гэтая ахвярнасць і Вам, пэўна, перадалася ад мамы?**

– Так, нас выхоўвалі рэлігійна. А было нас у сям'і 13 дзяцей. Жылі небагата, але дружна і з верай. Мой тата таксама быў вельмі пабожны. Яму і пагражалі, і ўсяляк запалохвалі, але ён ва ўсім быў, як мама. А аднойчы, у 1941-м, ён уратаваў аднаго вязня з калоны з Беразвечча[2]. НКВДысты спалохаліся нямецкага налёту і пастралялі з кулямётаў тысячы чалавек. Многія з іх былі нават не асуджаныя, а проста пад следствам. Той чалавек, якога ўратаваў тата, быў з Ушачаў. Ён быў паранены, але схаваўся пад мостам, і яго не дабілі. Дык тата яго прывёў да нас дамоў і некалькі месяцаў даглядаў яго, пакуль той не паправіўся.

Пані Фаіна ўмее шмат і цікава распавядаць. Наша размова працягваецца на тых самых могілках, дзе бязбожнікі тройчы палілі каталіцкую капліцу і дзе цяпер стаіць новая, цагляная, збудаваная за сродкі сям'і Літоўкаў і католікаў вёскі Мікалаева. Пані Фаіна паказвае нам закрыстыю і капліцу ўнутры. Яна з гонарам расказвае, што гэта нават ужо не капліца. Усе яе называюць касцёлам, і яна мае тытул Спаслання Духа Святога. У святыні няма вялікага багацця, але адчуваецца моц малітвы і веры мясцовых вернікаў. Наша суразмоўца, як і яе маці, з'яўляецца парафіяльным лідарам: арганізоўвае малітвы, дбае пра парадак на могілках, збірае сродкі на рамонт касцёла ў Уле і ў Мікалаеве, а таксама клапоціцца пра мемарыял забітых вязняў з Беразвечча.

***

Агата Літоўка памерла ў 1996 годзе, якраз у Вялікі Чацвер. На яе пахаванне, якое адбылося ў Вялікдзень, прыехала толькі 90 чалавек сваякоў, не лічачы ўсіх астатніх. Пані Фаіна, паказваючы нам помнік на магіле сваіх бацькоў, з перакананнем гаворыць: "Я ведаю, мая мама ў небе. Яна святая".

[1] Фота Агаты Літоўка глядзіце на першай паласе.

[2] Вязні з турмы ў Беразвеччы (сёння – раён Глыбокага Віцебскай вобласці) былі расстраляныя каля в. Мікалаева 26 чэрвеня 1941г. салдатамі НКВД.


Мемарыял у памяць па расстраляных НКВДыстамі вязнях з Беразвечча.


Капліца Спаслання Духа Святога ў Мікалаеве.


Фаіна Бізунова паказвае на месца, дзе вернікі Мікалаева тройчы адбудоўвалі драўляную капліцу.

# Якое першае слова зляціць з Вашых вуснаў на Божае Нараджэнне?

**З нагоды Калядных святаў усе вернікі складаюць адно аднаму пажаданні. Якое першае слова зляціць з Вашых вуснаў, калі Вы будзеце віншаваць сваіх блізкіх са святам?**

*Ірына Грэйць*



**Сям'я Крыстал:** – Божае Нараджэнне! Зноў і зноў на небе загарaецца зорка надзеі і любові! Хочам павіншаваць усіх з гэтым светлым і цёплым святам! Няхай Любоў, якая нарадзілася сёння, саграваe вас, радуе і вядзе па сапраўднай дарозе шчасця, якая напоўнена верай, надзеяй і любоўю!





**Анастасія Белякова:** – У такое светлае свята хочацца пажадаць усім людзям веры. Веры ў тое, што ўсё ў жыцці будзе цудоўна! Веры ў лепшую будучыню, у тое, што, без сумневаў, усё будзе так, як павінна быць, а не інакш. Веры ў сябе, у тое, што, нягледзячы ні на што, менавіта мы самі ў большасці з'яўляемся кавалямі свайго шчасця і будаўнікамі свайго жыцця. Веры ў Госпада, які заўсёды побач з намі – у думках, жаданнях, учынках. Ну і, безумоўна, шчасця ўсім, здароўя, любові. Няхай дамы напаўняюцца смехам, а сэрцы святлом!



**Ірына Гайдамовіч:** – Штогод мы перажываем свята Божага Нараджэння, і кожны раз складаем віншаванні. Сваім блізкім і родным, у першую чаргу, хачу пажадаць здароўя. Здароўя душы і цела. Калі чалавек здаровы, ён заўсёды радасны, шчаслівы, добры, можа працаваць, адпачываць, ствараць шмат розных рэчаў. Карацей кажучы, служыць Богу і людзям. А я яшчэ вельмі хачу, каб мае родныя і блізкія жылі як мага больш, былі побач і радаваліся з таго, што маюць такую магчымасць. У сваю чаргу, я буду маліцца і прасіць Бога, каб аздараўляў душы і целы. Усіх з надыходам свята Божага Нараджэння! Няхай весяліцца душа ў нашым Збаўцу, нараджэння Якога мы так чакаем...









**Кацярына Грыгаровіч:** – Каляды – гэта адно са святаў, якога ўсе мы з радасцю чакаем! Мы сустракаемся ў касцёле, каб першымі прывітаць маленькага Збаўцу. Пасля віншуем адно аднаго. Пажаданні заўсёды асабістыя для кожнага. Здароўя, поспехаў у працы (вучобе), шчасця. Але заўжды жадаем Божай апекі і заступніцтва Маці Божай. І гэта зразумела, бо без блаславлення ніводная справа не прынясе жаданага выніку. А з дапамогай Бога самыя, здавалася б, нездзяйсняльныя мары споўняцца. Таму тыя, хто прымае маленькага Езуса і Маці Божую ў сваё жыццё, маюць асаблівую моц.



**Кацярына Ламака:** – Кожнаму чалавеку жадаю здароўя. Здароўе патрэбна і старым, і маладым. Як шмат у бальніцах людзей, якім няма і 18-ці! А што будзе ў 88? Мне 27, і сама б сабе таксама пажадала здароўя. Кожнаму – міру і спакою. Дзецям – шчаслівага дзяцінства з мамамі і татамі. Дарослым – любові і шчасця. Каб бацькі маглі паказваць дзецям, як добра можна праводзіць час разам, напрыклад, без тых жа тэлефонаў. Таксама ўсім нам не перашкодзіць мір, асабліва зараз, калі ў свеце адбываюцца жахлівыя падзеі.



**Марына Шымук:** – Божае Нараджэнне – гэта надзея чалавецтва, сэнс чалавечага жыцця. У той час, калі мы набліжаемся да святкавання Божага Нараджэння, мы прагнем скіраваць найлепшыя пажаданні сваім блізкім. Вельмі хочацца, каб гэтае віншаванне закранула сэрцы нашых родных. Па-першае, хочацца пажадаць, каб у нашых сэрцах заўсёды было месца для нованароджанага Езуса, Які прыйшоў на свет, каб нас збавіць. Няхай нашы сэрцы напоўняцца прабачэннем, ласкай і любоўю. Няхай Езус народзіцца ў сэрцы кожнага чалавека. Таксама хочацца пажадаць знайсці той шлях, які прывядзе да жыцця сапраўднага хрысціяніна і падаруе жыццё вечнае! Няхай Дзіцятка Езус адорвае супакоем, любоўю і радасцю! Міру, кахання і добрых учынкаў. Няхай гэтыя святы будуць для нас добрымі і шчаслівымі!







**Святлана Жылевіч:** – Традыцыйна ў Вігілійны вечар мы збіраемся ў бацькоўскім доме. Аднаго пакалення ўжо няма, але з'явілася новае: ужо нашы дзеці. І пасля дзялення аплаткай мы гаворым словы пажаданняў. Але сярод выказванняў пра шчасце і здароўе можна пачуць словы «дзякуй», «прабач». У гэты святы вечар варта сказаць тое добрае, што не сказана за год ці хаця б адно аднаму шчыра паглядзець у вочы, калі, нягледзячы на ўзрост, застаецца складаным услых прызнаць свае правіны.



## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

**Якое слова першае зляціць з Вашых вуснаў, калі Вы будзеце віншаваць сваіх блізкіх са святам?**




**Усяго адказаў – 367**

# Як шанаваць сваіх бацькоў?

***"Я не магу назваць свайго бацьку добрым чалавекам, таму што зведала ад яго шмат кепскага ў дзяцінстве. Такіх гісторый многа сярод людзей. Як у такім выпадку захоўваць чацвёртую запаведзь, каторая кажа шанаваць сваіх бацькоў? Гэта нерэальна і вельмі цяжка!"***
*Вераніка*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Запаведзь шанаваць сваіх бацькоў, як і іншыя запаведзі, пакліканая ўстанавіць паміж людзей Божы парадак. Гэты парадак мае свае карані ў Богу, Які ёсць Любоў і Які з'яўляецца супольнасцю асобаў. Грэх чалавека зруйнаваў тыя адносіны любові, якімі людзі былі надзеленыя ад стварэння, таму ў нашым свеце намаганне любіць заўсёды будзе натыкацца на перашкоды ўласнага негатыўнага досведу, цярпенняў, здрады, зайздрасці і пад. Ведаючы гэта, Езус навучаў нас: *«Калі любіце тых, што вас любяць, якая вам за тое падзяка? Бо і грэшнікі любяць тых, каторыя іх любяць. І калі вы робіце дабро тым, што вам дабро робяць, якая ж для вас падзяка? Бо нават грэшнікі так робяць»* (Лк. 6, 32-33).

Нашае ўзрастанне да Божага Валадарства патрабуе намаганняў. *«Адгэтуль жа весціцца Валадарства Божае, і кожны сілаю ўваходзіць у яго»* (Лк. 16, 16). Катэхізіс Каталіцкага Касцёла адзначае: *«Чацвёртая запаведзь нагадвае дзецям, якія сталі дарослымі, пра іх адказнасць у адносінах да бацькоў. Наколькі гэта магчыма, яны павінны аказваць бацькам маральную і матэрыяльную падтрымку ў гады іх старасці і падчас хваробы, самотнасці або нягод»* (ККК 2218).



Клопат пра бацькоў з'яўляецца выяўленнем нашай любові, незалежнай ад таго, што мы засведчылі самі. Калі хтосьці не выканаў сваіх абавязкаў, гэта не азначае, што мы павінны рабіць тое ж. *«Будзьце ж міласэрныя, як і ваш Айцец міласэрны. Не судзіце і не будзеце асуджаны. Не вінавацьце, і не будзеце абвінавачаны. Прабачайце, і вам будзе прабачана»* (Лк. 6, 36-37).

Калі адказаць на Вашае пытанне з практычнага боку, то пашана да бацькоў найперш выяўляецца ў аказанні ім неабходнай падтрымкі і дапамогі. Гэта не сфера нашых эмоцый ці пачуццяў, гэта сфера дзеяння і волі. Калі мы выконваем свае абавязкі, нягледзячы на крыўду, якую можам адчуваць, мы выяўляем сваю любоў. Бо любоў – гэта не эмоцыя, любоў – гэта дзеянне.

# Чым займаецца курыя?



***"Чым займаецца курыя? Раскажыце, калі ласка, падрабязней пра яе дзейнасць?"***
*Мікіта*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD:**

– Паняцце "курыя" паходзіць з лацінскай мовы. У Старажытным Рыме гэтым словам называлі месца пасяджэнняў Рымскага сената.

У Каталіцкім Касцёле тэрмінам "курыя" азначаецца адміністрацыйны апарат Апостальскай Сталіцы (Рымская Курыя), паасобных дыяцэзій, а таксама манаскіх інстытутаў ці таварыстваў апостальскага жыцця.

У кожнай дыяцэзіі ў Беларусі ёсць свая курыя. "Кодэкс кананічнага права" інстытуту дыяцэзіяльнай курыі прысвячае каноны 469 – 494. Згодна з пастановамі кодэкса, дыяцэзіяльная курыя складаецца з установаў і асоб, якія дапамагаюць дыяцэзіяльнаму біскупу ў кіраванні ўсёй дыяцэзіяй, асабліва ў пастырскай дзейнасці, эканамічнай сферы і выкананні судовай улады (пар. кан. 469). Найпрасцей можна сказаць, што курыя пад кіраўніцтвам біскупа каардынуе дзейнасць Касцёла ў дыяцэзіі. Да яе заданняў належаць таксама зносіны з іншымі касцельнымі ўстановамі, прыватнымі асобамі, а таксама са свецкай супольнасцю.

Найбліжэйшымі супрацоўнікамі біскупа ў курыі з'яўляюцца генеральны вікарый, біскупскія вікарыі, канцлер, эканом і кіраўнікі розных ведамстваў курыі.

Генеральны вікарый падтрымлівае біскупа ў кіраванні дыяцэзіяй, выконвае адміністрацыйныя заданні, разглядае найбольш важныя бягучыя справы, прымае наведвальнікаў і прадстаўляе дыяцэзіяльнага біскупа.

Біскупскія вікарыі прызначаюцца біскупам з мэтаю дапамогі яму ў кіраванні часткай дыяцэзіі, групай асоб або для вырашэння нейкіх спраў. Яны выконваюць свае функцыі ў межах атрыманых ад дыяцэзіяльнага біскупа паўнамоцтваў і задач.

Вельмі важную ролю адыгрывае канцлер курыі, асноўная задача якога – клапаціцца пра падрыхтоўку і рассылку курыяльных актаў, а таксама пра захоўванне іх у архівах курыі ў адпаведнасці з пастановамі кананічнага права. Маючы на ўвазе згаданыя абавязкі, можна сказаць, што канцлер адказны за дзейнасць канцылярыі (сакратарыяту) курыі. У канцылярыі курыі могуць служыць таксама натарыусы і сакратары.

Вялікаю дапамогу дыяцэзіяльнаму біскупу аказвае эканамічная рада і эканом. У святле агульных нормаў кананічнага права да кампетэнцыі эканамічай рады, якую ўзначальвае сам дыяцэзіяльны біскуп, належыць кансультацыя, падрыхтоўка адпаведных планаў і кантроль у сферы эканамічных пытанняў дыяцэзіі.

Такім чынам, курыя і яе супрацоўнікі, дапамагаючы біскупу ў кіраванні даручанай яго пастырскай апецы часткай Божага народа, служаць таксама святарам і вернікам дыяцэзіі, якія могуць у выпадку патрэбы ў яе звяртацца.

# Ці могуць асобы з абмежаванымі магчымасцямі прымаць Святую Камунію?

***"Ці могуць псіхічнахворыя, хворыя на ДЦП, асобы з абмежаванымі магчымасцямі прымаць Камунію? Як ім быць, калі некаторыя нават не могуць паспавядацца праз сваю хваробу?"***
*Алена*

**На пытанне адказвае кс. Кірыл Бардонаў:**

– Звернемся да Кананічнага права, каб адказаць на Вашае пытанне. Распарадчыкі сакрамантаў (тыя, хто іх удзяляе) не могуць не ўдзяляць іх тым, хто сам належна аб гэтым папросіць, адпаведна да гэтага падрыхтаваны (мае належную дыспазіцыю) і каму права гэтага не забараняе (кан. 843 § 1 Кодэкс Кананічнага Права 1983 г.).

У кананічным праве Рыма-Каталіцкага Касцёла такія людзі, якія ў цэлым не здольныя да разумнага меркавання, зроўненыя з дзецьмі да сямі гадоў і не нясуць за сябе адказнасці (кан. 99). Названыя Вамі станы асобы з абмежаваннямі могуць толькі тады быць перашкодай да прыняцця Камуніі, калі такая асоба няздольная зразумець розніцы паміж звычайным хлебам і эўхарыстычным. Гэта той мінімум, які патрабуецца ад дзяцей і зроўненых з імі асоб, што знаходзяцца ў небяспецы смерці (кан. 913 § 2). Само па сабе фізічнае абмежаванне не з'яўляцца перашкодай да прыняцця Камуніі.



У звычайным выпадку (адсутнічае небяспека смерці) дзеці і зроўненыя з імі павінны мець "дастатковае распазнаванне і старанную падрыхтоўку, каб яны адпаведна са сваімі здольнасцямі разумелі таямніцу Хрыста і маглі з вераю і глыбокай пабожнасцю прыняць Цела Хрыста" (кан. 913 § 1). Кожную сітуацыю трэба ацэньваць асобна, паколькі існуюць розныя ступені псіхічнай абмежаванасці і розныя яе этапы. Прыняцце сакраманту – гэта дзеянне Хрыста і чалавека. Не кожны чалавек здольны да такога дзеяння. Сакраментальная ласка не прыносіць у нашым жыцці аўтаматычных эфектаў без нашага супрацоўніцтва з ёй. Для ахрышчаных, няздольных прыняць іншыя сакраманты, Бог падрыхтаваў іншую дарогу да збаўлення.

Памятайма, што, напрыклад, той, хто цалкам няздольны да свядомага чыну, не можа ўчыніць грэх.

# Каляндар на студзень

**1 студзеня – Урачыстасць Святой Багародзіцы Марыі.**

Дзева Марыя лічыцца самай вялікай хрысціянскай святой. Марыя нарадзіла Езуса пасля беззаганнага зачацця, аднак і сама Яна была таксама плёнам беззаганнага зачацця. Гэты факт каталіцкія тэолагі разглядаюць як лагічную ўмову, якая падрыхтавала Яе да ролі Маці Збаўцы. Тэалагічная дактрына Рымакаталіцкага Касцёла прызнае той факт, што Дзева Марыя з'яўляецца пасярэдніцай паміж Езусам Хрыстом і ўсім чалавечым родам, бо Яна – Маці Збаўцы, праз Яе прыйшла ласка да людзей.

**6 студзеня – Аб'яўленне Пана (Тры Каралі).**

Аб'яўленне Пана – урачыстасць, якую Касцёл адзначае, успамінаючы ў гэты дзень пакланенне вешчуноў, што прынеслі Дзіцятку Езусу свае дары: золата, ладан і смірну. Касцельная традыцыя называе гэтых вешчуноў таксама каралямі (адсюль іншая назва свята – Тры Каралі), а іх пакланенне сімвалізуе пачатак Божага Аб'яўлення языч-ніцкім народам, прадстаўнікамі якіх яны былі. Колькі дакладна было ў Бэтлееме вешчуноў, біблейская гісторыя не гаворыць, але свету вядомыя ўсяго тры дары-скарбы, і таму хрысціяне здаўна сталі лічыць, што вешчуноў было таксама трое. Пазней традыцыя, абапіраючыся на апакрыфічнае Евангелле IV ст., называе нават іх імёны – Каспар, Мельхіёр і Бальтазар – і падрабязна апісвае іх вытляд. У гэты дзень прынята асвячаць золата, кадзіла, міру і крэйду, якой потым пазначаюцца дзверы жылля і пішуцца на іх актуальны год і першыя літары надпісу «Christus mansionem benedicat", што азначае "Хрыстус благаслаўляе гэты дом": С+М+В+2016

**10 студзеня – Хрост Пана.**

У нядзелю пасля ўрачыстасці Аб'яўлення Пана Касцёл адзначае свята Хросту Пана, якім па традыцыі завяршаецца перыяд Божага Нараджэння.

У Евангеллі паводле Мацвея апавядаецца, што Езус прыйшоў з Галілеі над Іарданам да св. Яна, каб прыняць хрост ад яго. Але Ян спыніў Езуса, прамовіўшы: "Гэта мне трэба хрысціцца ад Цябе". Аднак Езус хацеў выканаць усё тое, што было справядліва. Калі Езус выйшаў з вады, нябёсы адкрыліся і Дух Святы ў аблічы голуба сышоў на Яго, а голас з неба прамовіў: "Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я" (пар. Лк 3, 21–22). Падзея Хросту Езуса стала таксама першым у гісторыі выпадкам аб'яўлення ўсёй Святой Тройцы ў бачных постацях (трынітарная эпіфанія), калі Бог Айцец прамаўляе, Сын Божы існуе ў чалавечай постаці, а Дух Святы з'яўляецца ў аблічы голуба.

*Падрыхтавала*
*Марына Ткач*

## На студзень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскіх пасвячэнняў у наступных святароў і біскупаў:

● **1 студзеня** – дзень нараджэння адзначаюць **Біскуп Пінскай дыяцэзіі Антоні Дзям'янка**, **а. Ежы Грыцко ISCh** (Першамайск), **кс. Юзаф Трубовіч** (Гродна);

● **2 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ежы Лявінскі** (Гродна);

● **3 студзеня** – дзень нараджэння адзначаюць **Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч**, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** (Дзісна), **кс. Ежы Ноцунь SCJ** (Барадзенічы); **а. Анджэй Юхневіч OMI** (Шуміліна), **а. Віктар Барысевіч OFMCap** (Ліпнішкі);

● **4 студзеня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Станіслаў Памыкала SJ** (Віцебск), **а. Ян Этэль SCJ** (Гродна-Вішнявец);

● **5 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Казлоўскі** (Малая Бераставіца);

● **6 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вячаслаў Барок** (Віцебск);

● **7 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Кнурэк** (Лынтупы), імяніны адзначаюць **кс. Люцыян Дамброўскі** (Баруны), **кс. Люцыян Радомскі** (Лунна);

● **10 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Пётр Кубіцкі SAC** (Талачын);

● **12 студзеня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Андрэй Таўрук** (Іказнь), імяніны адзначае **а. Арыюш Малыска OFMCap** (Маладзечна);

● **13 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Бурак** (Лаздуны);

● **15 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Ствол** (Цудзэнішкі);

● **16 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Чэслаў Паўлюкевіч** (Рось);

● **17 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Станіслаў Краўчанка SDB** (Смаргонь);

● **18 студзеня** – гадавіну біскупскіх пасвячэнняў адзначае **Біскуп Віцебскі Алег Буткевіч**;

● **19 студзеня** – імяніны адзначаюць **кс. Генадзь Ляўкоў** (Дрысвяты), **кс. Дзмітрый Рацько** (Празарокі), **кс. Генадзь Рэйшэль**, **кс. Генрык Яблонскі** (Забалаць); **кс. Генрык Яблонскі** (Ваўкавыск);

● **20 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Паўлікас Альгімантас** (Адэльск);

● **21 студзеня** – імяніны адзначае **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** (Удзела);

● **22 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Здзіслаў Ведэр SDB** (Гродна);

● **23 студзеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Яўген Барысюк** (Казловічы), **кс. Леон Ладыш** (в. Войстам); гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Станіслаў Пацына** (Ліда); імяніны адзначае **кс. Канстанцін Карака**;

● **24 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Віталь Слука SChR** (Шчучын);

● **25 студзеня** – імяніны і дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Гедройць** (в. Галынка);

● **26 студзеня** – імяніны адзначае **а. Роберт Дар'юш Яждж OCist** (Новы Пагост); дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Беланос** (Макараўцы)

● **27 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Рагіня** (Чад, Афрыка); гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Томаш Станзецкі** (в. Рагозніца); імяніны адзначае **а. Юрый Катовіч OFMCap**;

● **28 студзеня** – імяніны адзначае **кс. Томаш Станзецкі** (в. Рагозніца);

● **29 студзеня** – імяніны адзначаюць **кс. Валерый Орсік** (Орша), **кс. Валерый Аброшка** (Гродна), **кс. Валерый Быкоўскі** (В. Эйсманты), **кс. Валерый Мазюк** (Гродна), **кс. Валерый Спірыдон** (Гродна), **кс. Валерый Шэйгерэвіч** (Свіслач), **а. Аляксандр Мятліцкі SDB**;

● **31 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Жаўняровіч** (Мёры).

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

# Як павінна быць па-беларуску: "РАСКАЗАЦЬ АБ ГЭТЫМ" ці "РАСКАЗАЦЬ ПРА ГЭТА?"

**У сучаснай моўнай практыцы паралельна ўжываюцца абедзве сінтаксічныя канструкцыі. Але іх не варта лічыць раўнаправнымі з пункту гледжання культуры маўлення.**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Увогуле трэба пазбягаць выкарыстання ў беларускай мове канструкцыі **аб + месны склон**, аддаючы перавагу формуле **пра + вінавальны склон**: не *думаць аб родных*, а *думаць пра родных*, не *распавядаць аб гэтым*, а *распавядаць пра гэта*, не *марыць аб каханні*, а *марыць пра каханне* і г.д. Вядомы беларускі лінгвіст прафесар Ф. Янкоўскі называў канструкцыю *"аб + месны склон"* штучнай, запазычанай з рускай мовы.

Але ў некаторых выпадках прыназоўнік **аб** з рознымі склонамі можа ўжывацца ў літаратурнай мове. Так, прыназоўнік **аб** трэба лічыць нарматыўным пры наступных умовах:

а) калі што-небудзь сутыкаецца з чым-небудзь ці з кім-небудзь у працэсе руху *(кроплі дажджу стукаюць аб шыбы, ударыць кулаком аб стол, біцца галавой аб сцяну)*;

б) калі ўказваецца на ядомае рэчыва ва ўстойлівых спалучэннях *(аб адной вадзе сыты не будзеш; аб малаку ног не павалаку)*;

в) калі ўказваецца на пэўны прамежак часу, у межах якога адбываецца дзеянне *(вярнуўся з горада аб адзін дзень; вярнуўся з Амерыкі аб адзін год)*;

г) калі **аб** ужываецца ў афіцыйна-справавым стылі *(Закон аб мовах, Закон аб аўтарскіх правах, Кодэкс аб адукацыі)*.

Прыназоўнік **аб** з **месным склонам** мэтазгодна выкарыстоўваць і ў тых нешматлікіх, адзінкавых выпадках, калі ў тэксце ўтвараецца непажаданае сугучча, назіраецца нематываваны паўтор аднолькавых гукаў ці складоў. Напрыклад: ***Пра**панова **пра пра**лангацыю пагаднення будзе разглежана пазней.* У гэтым сказе варта замяніць схему "прыназоўнік **пра + вінавальны склон**" на канструкцыю "прыназоўнік **аб + месны склон**", што якраз і дазволіць пазбегнуць непажаданага паўтору аднолькавых складоў: *Прапанова **аб** пралангацыі пагаднення будзе разглежана пазней.*

Такім чынам, па-беларуску варта выкарыстоўваць спалучэнне "**расказаць пра гэта**", а не "***расказаць аб гэтым***".

## Шчыра віншуем!

Паважаным святарам – **біскупу Алегу Буткевічу, Станіславу Мжыглуду** і **Уладзіміру Шыдлоўскаму**, – а таксама іншым святарам, выхадцам з Браслаўскай парафіі, з нагоды святаў Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, Божага бласлаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці, трываласці ў душпастарскай працы!

Няхай Бэтлеемская зорка заўсёды свеціць на святарскім шляху. Няхай здароўе будзе моцным, радасць – штодзённай, а вера – непахіснай. З твару няхай не сыходзіць усмешка, а ў сэрцы заўсёды палае любоў да Бога і людзей навокал. Няхай Маці Божая – Маці святароў – ахіне Вас сваёй апекай і суправаджае на святарскім шляху, каб разам з Вамі і мы прыйшлі ў Валадарства Нябеснае!

**З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне браслаўскага касцёла Нараджэння Маці Божай**

## Паважаны кс. Яўген Міхайлаў!

Сардэчна віншуем Вас з нагоды імянін і выказваем падзяку за служэнне Пану Богу ў нашай супольнасці, за імкненне наблізіць нас да Пана Бога.

Жадаем Вам здароўя, бязмежнай міласэрнасці, плёну ў працы на карысць нашага Святога Касцёла. Няхай Маці Божая нястомна дапамагае Вам, напаўняе радасцю кожны дзень Вашага служэння Богу і людзям!



Атуляем Вас нашай любоўю і штодзённай малітвай!

**Парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім**

## Віншуем!

Паважанаму **ксяндзу Леаніду Мозгелю** з нагоды Дня нараджэння (26 снежня 2015 г.) ад усёй нашай парафіяльнай супольнасці жадаем многа Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Марыі Панны, неабходных сіл для рэалізацыі Вашых планаў і намераў, аптымізму, як мага больш адкрытых і шчырых людскіх сэрцаў, моцнага здароўя на доўгія гады, каб кожны дзень святарскай паслугі прыносіў радасць, задавальненне і добры плён! Шчыра дзякуем за вялікую працу ў нашай святыні, за Вашу дабрыню, за клопат пра кожнага з нас, за прыемную атмасферу і лагодную ўсмешку. Няхай з Вамі заўсёды будзе Ваш Анёл-ахоўнік!



**З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне з Павяцця**

## Хвала Хрысту!

«Маргарытка» парафіі Спаслання Святога Духа ў горадзе Барысаў віншуе **ксяндза-канцлера Адама Дынака** з нагоды імянінаў, якія ён адзначае 24 снежня.

Няхай Божая Міласэрнасць адорыць Вас патрэбнымі ласкамі для выканання штодзённых абавязкаў. Моцнага здароўя, дароў Духа Святога, апекі Панны Марыі і багатага плёну на Божай ніве!



У гэтых інтэнцыях «Маргарытка» абяцае маліцца кожны дзень.

## Віншуем!

24 снежня святкуе імяніны цудоўны **кс. Адам Дынак**, наш былы, на жаль, пробашч. Віншуем з гэтай нагоды шаноўнага ксяндза! Хочам падзякаваць за ўсё, што зрабіў ён для парафіі, за абнаўленне нашай святыні, за стварэнне ўтульнай, сямейнай атмасферы, за імкненне аб'яднаць парафіян, зрабіць нас сапраўднай хрысціянскай супольнасцю.

Мы ніколі не забудзем тую дабрыню, цеплыню і павагу, з якімі ставіўся да кожнага з нас наш паважаны пробашч. Жадаем кс. Адаму добрага здароўя, Божай ласкі, апекі і дапамогі ў нялёгкай справе будавання новага касцёла, станаўлення парафіяльнай супольнасці. Радасці Вам, душэўнага супакою і добрых людзей на жыццёвым шляху!



**З любоўю і малітвай за Вас, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

14 снежня **ксёндз-дэкан Альфрэд Пяхота** адзначае імяніны.

Віншуем нашага шаноўнага пробашча са святам! Шчыра жадаем шчасця, моцнага здароўя, Божага блаславення, апекі Маці Божай у нялёгкай справе служэння Богу і людзям. Дзякуем яму за шчырае сэрца, якое атуляе ўсіх нас ласкай, любоўю і супакоем. Мы дзякуем Пану Богу за сустрэчу з гэтым святаром.



Штодня дарогаю святой
Вядзеш ты іншых за сабой
І дорыш свету прыгажосць.
Дык дзякуй Богу, што ты ёсць!

**З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне в. Казяны**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

15 гадоў мы мелі вялікую радасць маліцца і працаваць з шаноўным **ксяндзом Зянонам Шчонхарам**. Дзякуючы яго намаганням пры дапамозе ксяндза Альфрэда і парафіянаў наша святыня прыгажэла з кожным днём. Былі цалкам зробленыя вонкавы рамонт і ўнутраная рэстаўрацыя. Касцёл ажыў таксама і духоўна. Ксёндз Зянон – незвычайны чалавек, высокай культуры, таленавіты святар з добрай душой, інтэлігентны і мудры. Сваімі ўчынкамі, адносінамі да людзей, казаннямі падчас святой Імшы ён прыцягваў да сябе не толькі пажылых людзей, але моладзь і дзяцей. Ён для іх быў найлепшым сябрам. Каля яго дома заўсёды тупалі жвавыя дзіцячыя ножкі і гучалі звонкія галасы. Колькі ж прыгожых песень прагучала і колькі цікавых гульняў было падрыхтавана! Радасць напаўняла сэрцы нашых дзетак і моладзі.



Хацелася б ад усяго сэрца падзякаваць нашаму былому святару за ахвярную працу, за шчырую малітву і адданасць цудоўнаму дару святарства. Няхай добры Бог аддзячыць яму здароўем!

З нагоды імянін, якія ксёндз Зянон адзначае 22 снежня, ад усёй парафіі віншуем і жадаем яму Божага блаславення і патрэбных ласкаў у нялёгкай працы на Божай ніве!

**З павагай і ўдзячнасцю, былыя парафіяне з Дрысвят (Браслаўскі р-н)**

## Паважаны кс. Мікалай Ціхановіч!

З нагоды імянін мы, парафіяне, дзякуем Пану Богу за тое, што зрабіў Вас часткаю нашай Глыбоцкай парафіі і жыцця глыбачан, за Ваша годнае служэнне Богу і людзям.

Жадаем, каб ксёндз-пробашч наследаваў свайго нябеснага апекуна ў святасці, робячы таемныя цуды любові.



Няхай Святы Дух апраменьвае Вас, Маці Божая атуляе, а нябесны Заступнік натхняе на штодзённыя цуды!

**Парафіяне з Глыбокага**

## Хвала Хрысту!

Сардэчна віншуем з нагоды Дня нараджэння (16 снежня) **ксяндза Віталя Гальца**, які працаваў у нашай парафіі пяць гадоў.



Дзякуем яму, што, выконваючы волю Хрыста, быў з намі. Дзякуем ксяндзу Віталю за прыгажосць душы, за цярпенне і разуменне, за прыгожы касцёл, які маем. Жадаем яму шчасця, Божых ласкаў, даверу і надзеі ў Пану Богу. Няхай Маці Божая атуляе яго сваёй пяшчотай, любоўю і малітвай!

**З павагай і ўдзячнасцю, вернікі касцёла Унебаўшэсця Хрыста, в. Дзеркаўшчына**

## Віншуем!

Віншуем **ксяндза Вячаслава Барка** з Днём нараджэння, які ён адзначае 6 студзеня. Хочам пажадаць яму поспехаў у нялёгкай працы, моцнага здароўя. Няхай яму заўсёды дапамагае Бог Айцец!



**Ад усіх парафіянаў з вялікай павагай, Часлава Васільева (Расоны)**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

14 снежня – Дзень імянін **ксяндза Альфрэда Пяхоты**. Мы, вернікі Дрысвяцкай парафіі, сардэчна дзякуем Вам, ксёндз Альфрэд, за працу па аднаўленні касцёла і духоўнага жыцця ў нашай парафіі, за перажытыя разам радасці і цяжкасці. Дзякуем за вернасць і адданасць святому Касцёлу, за шчырыя словы навукі, за дабрыню і аптымізм. Плён Вашай працы пакінуў добры след у нашых сэрцах. У нашай парафіі Вас няма, але засталася памяць: узорны парадак у святыні, званы, якія і зараз клічуць нас на святую Імшу, стацыі Крыжовага Шляху Езуса і многае іншае.



Няхай добры Бог дапаможа Вам пераадольваць усе цяжкасці, няхай здароўе будзе моцным, а радасць шматграннай!

Нашы віншаванні і найлепшыя пажаданні таксама дасылаем Вашай маме. Здароўя ёй на доўгія гады і наша падзяка за выхаванне такога слаўнага сына-святара!

**Удзячныя парафіяне з Дрысвят, Браслаўскі р-н**

## Хвала Езусу Хрысту!

*Два гады працуе ў касцёле Духа Святога ў Віцебску **ксёндз-пробашч Адам Квяткоўскі**. Руплiва, ахвярна і з асаблівым замілаваннем аддаецца ён справе аб'яднання вернікаў з Панам Богам. Святар прыкладае шмат намаганняў, каб аб'яднаць усіх парафіянаўпаміжсабой, каб жывы касцёл быў сапраўднай сям'ёй у Езусе Хрысце. На ўласным прыкладзе руплівай, ахвярнай малітвы ён паказвае шлях да вечнага збаўлення.*



*Некалькі месяцаў таму кс. Адам з радасцю згадзіўся быць духоўным кіраўніком нашай малітоўнай групы «Маці Божай Салятынскай». 24-га і 25-га снежня кс. Адам адзначае Дзень імянінаў і Дзень народзінаў. Шчыра дзякуем і сардэчна віншуем пробашча з асабістымі святамі, а таксама з Божым Нараджэннем і Новым годам! Жадаем моцы Духа Святога, спаўнення ўсіх задумаў, трывання ў лучнасці з Панам Богам. А нашая Добрая Маці няхай атуляе яго Матчынай ласкай і апекай, бароніць ад усіх нягодаў і непаразуменняў!*

***Ад імя малітоўнай групы «Маці Божай Салятынскай», Рэгіна Іванова***

## Шчыра віншуем!

*Ксяндзу Леаніду Мозгелю з нагоды Дня нараджэння і Калядніх святаў дасылаем букет найлепшых пажаданняў! Няхай кожны дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, хай сэрца напаўняе радасць, любоў і надзея, у душы жыве супакой, а з твару не сходзіць усмешка. Жадаем таксама моцнага здароўя, сіл, цярплівасці ў пастырскай паслузе і ўсіх ласкаў ад народжанага Хрыста!*



***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, вернікі з вёсак Лявонпаль, Дэмскія, Паташня Мёрскага раёна***

## Віншуем! Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Ад шчырага сэрца мы, вернікі Лынтупскай парафіі св. Андрэя Баболі, віншуем з Днём нараджэння (7 студзеня) нашага шаноўнага **ксяндза-пробашча Паўла Кнурэка**.*

*Хочам падзякаваць яму за 14-гадовае служэнне ў нашай парафіі, за прыгожыя і змястоўныя казанні, за пачуццё гумару, за падтрымку ў цяжкіх жыццёвых сітуацыях. За тое, што для кожнага з нас, як старога так і малога, ён знаходзіць патрэбныя словы. Яго намаганні і шчырая малітва аб'ядноўваюць парафію вакол касцёла, ведучы нас дарогай збаўлення.*

*У Дзень святочны нараджэння*
*Мы зычым Вам ва ўсім вязення,*
*Здароўя, радасці, удачы,*
*Не зведаць у жыцці нястачы.*

*Хай Маці Божая Марыя,*
*Пан Езус і ўсе святыя*
*Заўжды над Вамі апякуюць,*
*Ды плён у працы ўсёй даруюць!*

*А Творца к сэрцу прытуляе*
*І ў цяжкі час дапамагае.*
*Любові Вам, заўжды натхнення*
*У душпастырскім служэнні!*

*Нясіце Добрую Навіну, пашырайце радасць і любоў сярод Божага люду. Поспеху Вам і цярпення на нялёгкім святарскім шляху!*

***З павагай і ўдзячнасцю, усе вернікі Лынтупскай парафіі св. Андрэя Баболі***

## Віншуем!

*Шаноўнаму **кс. Мікалаю Ціхановічу** з нагоды дня імянін складаем найлепшыя пажаданні! Няхай Бог, якому ён даверыўся, блаславіць на цяжкую і адказную дарогу святара, Маці Божая хай ахіляе Сваёй апекай, а святы заступнік Мікалай чувае над ім кожны дзень.*

*Дзякуем за пяць гадоў святарскай паслугі ў нашай парафіі!*



***Трэці закон св. Францішка ў Вялікіх Эйсманах (Гродзенская дыяцэзія)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шмат год прайшло, як у нашай парафіі працаваў **ксёндз Віталь Галец**. Гэта быў чулы, спагадлівы, шчыры пастыр. Ён на ўсё знаходзіў час. Ні снег, ні завіруха не перашкаджалі яму даехаць да капліц на адлегласці 10-15 кіламетраў. Шмат працаваў з моладдзю і дзецьмі.*

*Зараз ён далёка ад нас, але мы памятаем пра яго і хочам падзякаваць былому святару за ласку, за добрыя словы, за змястоўныя казанні. Яго святарскае слова захапляла мудрасцю, велічнасцю і прастатой.*

*16 снежня ў ксяндза Віталя дзень нараджэння. Ад шчырага сэрца жадаем нашаму любімаму святару здароўя, шчасця, задавальнення ад душпастырскай працы, шчодрай ласкі Маці Божай і святога заступніка, радасці ў святарстве!*

*Нізкі паклон бацькам ксяндза Віталя за выхаванне цудоўнага сына-святара!*



***Вернікі Друсвяцкай парафіі, Браслаўскі р-н***

## Хвала Хрысту! Шчыры дзякуй!

*Апошнім часам у мяне ўзнікла сур'ёзная праблема са зрокам – патрабавалася дарагая аперацыя на вачах. Даведаўшыся пра гэта, многія аказалі мне не толькі маральна-духоўную падтрымку (маліліся за маё здароўе), але і дапамаглі матэрыяльна. Гэта цудоўныя і міласэрныя людзі: **Марына Кончыц, Фаіна Аляксандраўна Караваўцкая, Валянціна і Віктар Шчановічы, Тэрэса Лысёнак, Часлава Людвікаўна, Ірына Лемянкова, Алена Германовіч** і многія іншыя, якія маліліся і моляцца за маё здароўе. Я ім усім вельмі ўдзячная!*

*Няхай добры Божа заўсёды падтрымлівае іх у жыцці і ў добрых справах! А я шчыра дзякую ім і віншую са святам Нараджэння нашага Збаўцы Езуса Хрыста!*

***З удзячнасцю і павагай, Аліцыя Трафімовіч (Паставы)***

# Удзячнасць з Відзаў

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

Мы, вернікі касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Відзах, **ад усяго сэрца віншуем нашага святара Альфрэда з імянінамі**, якія ён адзначае 14 снежня.

Мы дзякуем Пану Богу за ласку сустрэчы з Вамі, паважаны ксёндз Альфрэд. За тыя гады, што Вы кіруеце нашай парафіяй, зроблена так многа. Наш касцёл ажыў, расквітнеў! А Вы ж яго прынялі спустошаным і занядбаным. Але ў Вас не апусціліся рукі. Доўгімі бяссоннымі начамі Вы думалі, што зрабіць у першую чаргу. Так крок за крокам змянялася аблічча святыні. І да свайго 100-годдзя храм змяніўся непазнавальна! Шмат кветак, арыгінальныя кампазіцыі букетаў, чысціня, парадак. Непазнавальна змянілася і тэрыторыя вакол касцёла. Хочацца ўкленчыць перад узвышэннем з трыма крыжамі – сімвалам Галгофы, пакланіцца каплічцы Езуса Міласэрнага, прачытаць пасланні Маці Божай з Ла Салет, Лурду, Фацімы, прайсці Крыжовым шляхам Збаўцы.

Абыякавых не бывае, кожны задумваецца над сваім жыццём. А цудоўная батлейка?! І пастушкі, і каралі, і розныя звяры і птушкі – увесь свет вітае Нараджэнне Божага Сына! Касцёл і прыкасцельная тэрыторыя сталі духоўным асяродкам нашага мястэчка, бо ўсё тут накіравана на духоўны рост чалавека.

На дварах снежань. А ў нашым касцёле ў вазонах квітнеюць хрызантэмы розных колераў. І ўсё гэта Ваша заслуга, дарагі наш пробашч! А калі Вам патрэбна дапамога, то сваё плячо падстаўляе другі наш святар, Зянон Шчонхар, якога мы таксама вельмі любім.

Да Вас, ксёндз Альфрэд, туляцца і дзеці, і моладзь, і старэнькія бабулькі, для ўсіх у Вас знаходзіцца ласкавае слова і добрая ўсмешка. Пешыя і роварныя пілігрымкі ў Будслаў, пілігрымкі цвярозасці – усюды паспявае ксёндз Альфрэд. Незабыўна праходзіць штогадовая парафіяда. Ці ж пра ўсё раскажаш! Асаблівую ўдзячнасць хочацца выказаць Вам, паважаны пробашч, за простыя і змястоўныя, кранальна задушэўныя і зразумелыя казанні падчас святой Імшы. Яны прымушаюць думаць пра сваё жыццё, станавіцца лепшым, больш дасканалым. Вы наведваеце хворых у бальніцах і дома, прыносіце ім радасць сустрэчы з Хрыстом, суцяшэнне ў немачы. Яны чакаюць Вас з радасцю і любоўю.

А яшчэ Вы вельмі любіце прыроду, ведаеце ўсе грыбныя мясціны. Дзеліцеся грыбамі з тымі, хто не можа выбрацца ў лес. І рыбалка Вам даспадобы. Адным словам, за што ні возьмецца наш пробашч Альфрэд, усё ў яго атрымліваецца добра і прыгожа. Вось за ўсё гэта і любім мы Вас і дзякуем ад усяго сэрца!

Жадаем Вам моцнага здароўя, плённай працы на Божай ніве, духоўных і фізічных сіл. Няхай Маці Божая ахінае Вас сваёй апекай, а Святы Дух адорвае ўсімі сваімі дарамі. Жывіце доўга, бо Ваша самаадданае служэнне Богу і людзям прыносіць шчодры плён!

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі Відзаўскай парафіі***

## Віншуем!



*Пробашчу касцёла Святога Духа ў Віцебску **кс. Адаму Квяткоўскаму** нашы сардэчныя віншаванні з нагоды Божага Нараджэння, а таксама і з Днём народзін і імянінаў!*

*Душу нам слова акрыляе,*
*Калі мы з Вамі прамаўляем:*
*"О, Ойча наш!"*
*І Вы для нас – часцінка неба,*
*Ойча духоўны, даўца Хлеба.*
*Вы – добры пастыр наш.*
*З нагоды добрай, у дзень народзін*
*Вам зычым быць заўжды ў згодзе*
*З сабой, з людзьмі і з Богам,*
*Каб шчасцейка не абмінала,*
*Здароўечка не пакідала,*
*І плёну ў пачэснай працы*
*Многа-многа!*

***Леакадзія Абухоўская, Часлава Замосцік (парафія Святога Духа, Віцебск)***

# Подарок как

## Учимся правильно выбирать и дарить подарки



**На календаре зима... Думаю, для каждого из нас это время года в первую очередь ассоциируется с Рождественскими и новогодними праздниками и, конечно, мы вряд ли сможем представить себе их без подарков.**

**Марина Ткач**, *социальный педагог, психолог*

При слове *«подарок»* чаще всего мы вспоминаем праздник, яркие и положительные эмоции. И сколько бы нам ни было лет, мы начинаем ощущать себя детьми.

Согласитесь, для большинства из нас выбор подарка – процесс длительный, энергозатратный, требующий порой креативных подходов и решений, а иногда и просто загоняющий нас в тупик.

И для того чтобы выбор и покупка подарков не вызывала у вас ни страха, ни паники, а лишь дарила предвкушение той радости, которую смогут ощутить родные, близкие и друзья, сегодня мы поговорим о том, как правильно выбирать и дарить подарки.

**Подарок** – это, прежде всего знак внимания, дружбы и даже, может быть, любви и восхищения.

И только ради того, чтобы наблюдать искорки счастья в глазах любимых и родных нам людей, мы готовы, и скажу вам больше, должны «броситься» на длительный поиск заветной вещи.

Как гласит одна старинная английская пословица, *«кто умеет дарить – тот умеет жить»*.

Давайте теперь разберемся с тем, как же все-таки правильно выбрать подарок.

С точки зрения психологии, радость от получения подарка отчасти зависит от того, к какому психологическому типу относится тот или иной человек.

Всем нам известно, что по типу темперамента люди делятся на:

- холериков;
- сангвиников;
- флегматиков;
- меланхоликов.

Если определять каждый тип в нескольких словах, то **холерики** – это темпераментные, импульсивные и иногда неуравновешенные люди.

**Сангвиники** – веселые, активные и достаточно общительные личности.

**Флегматики** – спокойные и консервативные люди.

**Меланхолики** – чувствительные, замкнутые и обидчивые.

Поэтому при выборе подарка следует учитывать данные личностные особенности темперамента.

Таким образом, *холерикам* можно дарить нестандартные подарки, ярких расцветок и все, что подойдет для их взрывного характера. Это могут быть так называемые «подарки с сюрпризом». А вот традиционные подарки в виде обычной вазы, например, или рамочки для фотографий вряд ли будут им по душе.

*Сангвиники* также предпочитают все необычное. Как никто другой, они любят эксклюзивные вещи и подарки, сделанные своими руками, которые в результате будут оценены по достоинству. А вот более практичные презенты могут и вовсе остаться без должного внимания.

*Флегматики* как самые консервативные, наоборот, в подарке ценят, прежде всего, его практичность. Это, например, могут быть перчатки, шарф, теплый свитер, также можно подарить что-либо из предметов интерьера (настольную лампу, оригинальный плед, набор для письма и т.д.).

Что касается *меланхоликов*, то они также предпочитают нужные и полезные вещи. Как правило, они обладают хорошим вкусом. Поэтому в качестве подарка для них следует выбирать действительно качественные и эстетические вещи, например, кожаный портфель или портмоне, редкую книгу в изящном переплете или диск с хорошей музыкой.

> **«Наиболее распространенный тип среди людей – это кинестетики. Они составляют приблизительно 40% всего населения земного шара»**

Помимо типа темперамента при выборе подарка можно опираться еще на одну теорию, согласно которой все люди отличаются непосредственным восприятием окружающей действительности.

Исходя из типа восприятия, выделяют:

- кинестетиков – тех, кто воспринимает мир «на ощупь» и стремиться все попробовать «на вкус»;
- визуалов – для них важно зрительное восприятие и, соответственно, красота окружающего мира;
- аудиалов – им важно слышать окружающих.

Но есть и такой тип, который заключает в себе несколько видов восприятия.

Ведь именно ощущение окружающего мира отвечает за то, как мы воспримем тот или иной подарок. Будет это бурный восторг или же холодное равнодушие.

Наиболее распространенный тип среди людей – это кинестетики. Они составляют приблизительно 40% всего населения земного шара.

Идеальным подарком для кинестетиков могут быть вещи и предметы, к которым приятно прикасаться. Также могут подойти подарки ручной работы. Ну и, конечно, будьте готовы к тому, что сразу после вручения они начнут изучать и пробовать в деле ваш подарок. В числе нежелательных предметов для этого типа людей являются перчатки – они блокируют связь с внешним миром.

Визуалы же составляют примерно 30% всего населения. Они большие эстеты во всем, что касается внешнего вида, еды, интерьера. Поэтому, делая подарок, следует позаботиться не только о содержимом коробочки, но и о внешнем, привлекательном виде упаковки.

Достаточно редкий тип – это аудиалы, всего лишь 10% населения. Лучшим подарком для них будут музыкальные диски, различные плееры, современные наушники с хорошей акустикой, музыкальные инструменты. Даже билет на концерт станет отличным решением.

Впрочем, представителей того или иного типа восприятия в чистом виде встречается немного. Чаще всего можно наблюдать сочетание нескольких типов.

Поэтому внимательней присматривайтесь к своим друзьям, родным и близким для того, чтобы понять, к какому типу восприятия, а также темперамента они относятся.

Подводя итог всему сказанному выше, посоветуем стараться, чтобы:

- подарок соответствовал характеру и типу восприятия; тогда он точно принесет радость и восторг;
- помните, что подарок должен интриговать, быть сюрпризом;
- подарок должен быть достаточно привлекательным для того, чтобы человек хотел им обладать и пользоваться.

Думаю, немного разобравшись с тем, как выбрать подарок, следует поговорить о не менее важном вопросе, а именно как подарить подарок, при этом не обидев и тем более не унизив человека.

**Первое правило: *Любовь в комплекте.***

Что это значит? А это значит, что дарение подарка не должно быть отбываемой повинностью. Всякий подарок несет в себе чувства и настроение. Самым лучшим всегда был и останется подарок, в который вы вложили частичку своего душевного тепла и любви. Постарайтесь не ориентироваться на материальную составляющую подарка. Не старайтесь, чтобы это было как можно дороже, как можно «круче». Любой подарок, пусть даже самый дешевый, но подаренный с зарядом положительных эмоций и любовью, лучше выразит Вашу симпатию, чем даже самый дорогой, но безликий предмет.

И здесь мне вспоминается одна притча о ценности подарка.

*Однажды накануне праздника король и королева решили по обычаю преподнести друг другу подарки. Король долго думал над подарком для королевы и в итоге направился к океану и целую неделю нырял на глубину, кишащую кровожадными акулами, чтобы достать самые лучшие и красивые жемчужины для ожерелья королеве.*



# КОМПЛИМЕНТ

*Королева же осталась во дворце.*

*Когда наступил праздник, король подарил королеве превосходное ожерелье, а она в свою очередь одарила его своим самым сладким поцелуем.*

*Оба были счастливы. Ведь в подарке важно не то, сколько в него вложено труда или денег, а то, сколько он приносит радости.*

**Правило второе: *«Безвозмездно – значит даром»***

Дарение – жест по определению бескорыстный. Вручая подарок, мы не должны ждать ответной выгоды для себя и какой-либо чрезмерной благодарности. Все, на что мы должны быть нацелены, – это просто доставить радость человеку.

Также помните о том, что подарок в первую очередь должен радовать получателя, а не вас. Безусловно, он должен вам нравиться, но делать подарок по принципу «я тоже такой хочу» не лучший способ порадовать человека.

Также я бы хотела затронуть, на мой взгляд, не менее важный вопрос в ситуации дарения подарка – это этикет.

Ведь, согласитесь, часто мы попадаем в затруднительное положение, когда, открыв заветную коробку, осознаем, что это не совсем то, что бы нам хотелось.

**«...дарение подарка не должно быть отбываемой повинностью»**

Итак, во-первых, при получении подарка не нужно откладывать его в сторону. Открыв подарок, необходимо высказать слова благодарности. При этом смотреть нужно на самого гостя, в глаза, а не на подарок. Делать это нужно всегда и при любом случае. Благодарность – это, прежде всего, знак внимания и уважения.

Но не стоит также вдаваться и в крайности: преувеличенно радоваться всему, при этом громко комментируя подарок (Как замечательно! Изумительно! и т. д.) или едва ли вежливо улыбаться со страдальческим лицом. Всегда нужно вести себя ровно.

Если случилось так, что вам подарили два одинаковых подарка, постарайтесь, чтобы гости и сам даритель не заметили вашего иронического отношения к ситуации, а также не испытывали смущения.

В случае, если подарок вам все-таки не нравится, совет только один – не подавайте вида. Ведь, выбирая подарок, вам искренне хотели угодить и порадовать.

Случаются и такие ситуации, когда мы понимаем, что не можем принять данный подарок, будь то из-за слишком высокой стоимости или просто по причине нежелания принимать подарок от конкретного человека.

В подобных случаях нельзя отделываться простыми фразами: «Нет, я не могу это принять, это очень дорого и т.д.». Чаще всего такие возгласы – прямой путь к скандалу. Отказываться нужно решительно и аргументированно, при этом объясняя причину отказа. Но все-таки, несмотря ни на что, не забывайте о благодарности.

Надеюсь, что наш разговор



сегодня помог, а быть может, еще поможет вам выбрать действительно правильный подарок, который будет комплиментом для получателя.

Дарите окружающим и, конечно, себе любовь, радость, тепло и счастье, преподнося подарки от всего сердца и со всей искренностью!

Помните и о том, что наш красивый облик и ухоженный вид – это еще один комплимент нашим друзьям, ведь мы готовились к встрече с ними.

Хороших праздников и приятных подарков!

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**25 снежня 2015 г.**

***Лк 2, 1-14***

У гісторыі чалавецтва Бог паміж рознымі справамі выбраў час і месца для нараджэння Свайго Сына. Езус нарадзіўся на "перыферыі" жыцця тагачасных людзей. Ён, Бог, сышоў з нябеснай хвалы да нас, далёкіх ад шчасця неба. Ён прыйшоў да найбяднейшых, каб у цемры ночы прынесці людзям святло надзеі і жыцця. У гэтым праявілася Божая міласэрнасць.

*– Ці спадзяюся, што Бог дзейнічае цяпер у маім штодзённым жыцці?*

*– Ці веру, што Бог з'яўляецца Панам сучаснай гісторыі?*

*– Езус мой Збаўца?*

*– Якія справы я Яму давяраю і адкрываю, каб Ён перамяніў іх згодна са сваёй воляй?*

*– Ці бачу, што Ён мне неабходны?*

*– А можа, лічу, што я з'яўляюся месіяй сам для сябе і для свету?*

*– Ці абвяшчаю людзям Хрыста?*

*– Ці сведчу пра тое, што Бог зрабіў у маім жыцці?*

*– Ці нясу святло надзеі тым, хто не ведае Хрыста?*

*– Ці маю адвагу так, як Езус, ісці да людзей, што знаходзяцца на "перыферыі" грамадства?*

*– А можа, наадварот, "выпіхваю" каго-небудзь з блізкіх на гэтую "перыферыю"?*

*– Можа, асуджэннем, плёткамі, падазронасцю перакрэсліваю сваіх блізкіх і родных і не лічу іх вартымі Божай Міласэрнасці і Божага Збаўлення?*

**27 снежня 2015 г.**

***Лк 2, 41-52***

Чалавек, які жыве ў вялікай блізкасці з Богам, не можа думаць, што кіруе Богам. Бог – далікатны і пяшчотны – застаецца ўсё-такі Богам. Трэба з вялікай пашанай і трымценнем паводзіць сябе з Богам і з усім, што Ён нам давярае. Трэба шукаць Яго і разумення Ягонай волі. І не падаць духам, калі не ўсё адразу разумеем, а з вялікім даверам разважаць у сэрцы над Божым словам. А Божы Дух зробіць, што ўбачым Божую волю адносна сябе.

*– Ці з пашанай стаўлюся да прысутнасці Бога ў маім жыцці?*

*– Ці прымаю і як прымаю Святую Камунію?*

*– Ці засяроджана ўдзельнічаю ў Святой Імшы?*

*– Ці праслаўляю малітвай праслаўлення Пана пасля Святой Камуніі?*

*– Ці слухаю Божае слова і ці выконваю яго?*

*– Ці памятаю, што гэта слова Бога?*

*– Што раблю, каб яго правільна зразумець?*

*– Ці цаню сваю прыналежнасць да супольнасці Касцёла?*

*– Ці кахаю даверанага мне Богам мужа, жонку?*

*– Ці адказна выхоўваю давераных мне Богам дзяцей?*

**3 студзеня 2016 г.**

***Ян 1, 1-18***

Езус, названы Словам, з'яўляецца Богам, прыйшоў да людзей ад Айца. Ён – жыццё і святло. І калі чалавек Яго прымае, то Езус дае яму сілы. Ён дае моц, каб мы сталі Божымі дзецьмі. Ён робіць нас здольнымі быць падобнымі да нашага Айца. Таму заклік "Будзьце міласэрныя, як і Айцец ваш Нябесны" магчымы для выканання. Распачынаючы год Божай міласэрнасці, варта зразумець, што наша падабенства да Айца распачынаецца з прыняцця Езуса. Ён нас перамяняе, калі жывём згодна з Яго воляй.

*– Ці прымаю я Езуса ў сваё жыццё?*

*– Ці мае справы – гэта Яго справы?*

*– Ці аддаў я Яму сваё жыццё цалкам?*

*– А можа, ёсць справы, якія, як я думаю, ведаю лепш за Яго?*

*– Ці добра карыстаюся Божымі дарамі?*

*– Ці выкарыстоўваю розум і іншыя дары Святога Духа, каб выконваць волю Айца?*

*– А можа, уцякаю ў ляноту і безадказнасць, фальшыва перадаверваючы свае справы Богу?*

*– Ці шукаю Божай волі?*

*– Як гэта раблю?*

*– Ці выконваю спазнаную Божую волю?*

*– Як гэта раблю?*

**10 студзеня 2016 г.**

***Лк 3, 15-16; 21-22***

У Евангеллі ад Лукі хрост Езуса асаблівым чынам падкрэслівае аб'яўленне Святога Духа. Гэта пачатак новага стварэння і Новага Запавету. Езус, Які прыходзіць выконваць справу Збаўлення, – гэта не палітычны "месія", якога шматлікія чакалі. Гэта Бог Айцец, і Сын, і Дух Святы, Які здзяйсняе свае вялікія справы. Ён прыйшоў, каб нас ахрысціць –гэта значыць, "акунуць" у агонь ачышчэння, удасканалення. А таксама, каб выліць на нас Святога Духа, зрабіць нас Божым Валадарствам, месцам прабывання Бога, святыняй і Божай пасудзінай, поўнай Божага Духа.

*– Ці разумею я, што пакліканы, каб ува мне было Божае Валадарства?*

*– Ці сапраўды Бог з'яўляецца Панам і Валадаром майго жыцця?*

*– Ці запрашаю я Яго і ці лічу Яго дамачадцам майго сэрца?*

*– Ці прашу Бога, каб Ён усё больш і больш быў прысутны ў маім жыцці?*

*– Ці ведаю, што Яго прысутнасць не знявольвае, а робіць сапраўды вольным?*

*– Ці прашу Святога Духа, каб Ён навучыў мяне больш плённа супрацоўнічаць з Ім?*

*– Ці прашу Яго, каб Ён удасканаліў недасканалае памкненне майго сэрца?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***

# ФОТАФАКТ




**Апостальскі Нунцый Клаўдыё Гуджэроці падчас сваёй апошняй афіцыйнай сустрэчы ў Беларусі – дзяленнем аплаткай з моладдзю, якая сабралася ў мінскай катэдры на адвэнтавае чуванне, – апрануўся ў вышыванку. “Гэта мой апошні жэст, апошні падарунак – знак таго, наколькі вы мне дарагія”, – сказаў арцыбіскуп, перад тым як апрануць нацыянальную кашулю.**

**Гучныя апладысменты запоўнілі ўсю прастору прыгожай святыні і доўга не сціхалі. Варта нагадаць, што Папа Францішак накіраваў арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроці ў якасці Апостальскага Нунцыя ва Украіну. Калі і хто будзе прызначаны Папскім пасланнікам у Беларусь, пакуль невядома.**

*Паводле catholic.by*

# Увага! Фотаконкурс!

**Дарагія сябры! Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка” аб’яўляе фотаконкурс “Міласэрнасць – гэта…” Як вы ўсе ведаеце, у Каталіцкім Касцёле аб’яўлены Год Міласэрнасці. Папа Францішак заахвочвае нас, каб мы былі міласэрнымі. А што такое “міласэрнасць”? Ці можна яе ўхапіць позіркам аб’ектыва фотакамеры? Як думаеце?**

Дасылайце нам свае фотаздымкі на гэтую тэму. Раскажыце ўсім чытачам “Каталіцкага Весніка” і партала Catholicnews.by, што такое міласэрнасць.

Мы ў сваю чаргу ўжо рыхтуем прызы для пераможцаў. Гэта будуць лічбавыя гаджэты і ўсё, што неабходна сучаснаму інтэрнэт-юзеру. Цяпер правілы.




1. На конкурс дасылаем толькі адзін фотаздымак. Абавязкова трэба пазначыць прозвішча і імя аўтара, адрас, а таксама працяг выразу “Міласэрнасць – гэта …” для Вашага фота.
2. Здымкі можна апрацоўваць у праграмах толькі мінімальна.
3. Нельга дасылаць спампаваныя з інтэрнэту здымкі.
4. Здымкі можна рабіць любой фота- ці відэаапаратурай, у тым ліку і смартфонамі.
5. Дасылаем здымкі на электронны адрас рэдакцыі: katalickivesnik@gmail.com або ў суполку рэдакцыі УКантакце.
6. Конкурс пачынаецца з 14-га снежня і завяршаецца 13 студзеня 2016 года.
7. Вашыя здымкі будуць з’яўляцца на сайце Catholicnews.by па меры іх паступлення.
8. Галасаванне па фотаздымках пачнецца 4 студзеня і будзе доўжыцца да 13 студзеня. Вынікі будуць аб’яўлены 14 студзеня праз галасаванне на сайце Catholicnews.by і праз рашэнне рэдакцыі.
9. Здымкі пераможцаў будуць надрукаваныя ў газеце “Каталіцкі Веснік”.

Усім жадаем творчага натхнення! Дык што такое міласэрнасць?..

***Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”***



# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры! Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.**

Свае ахвяраванні нам даслалі: **парафіяне з в. Казяны** *(Браслаўскі р-н)*, **Ганна Барысевіч** *(Глыбокае)*, **Галіна Галуза** *(в. Падсвілле, Глыбоцкі р-н)*, **Вераніка Абуховіч** *(в. Дунілавічы)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Франц Камянецкі** *(Докшыцы)*, **Марыя Матус** *(Валожын)*, **Алена Цімафеева** *(Маладзечна)*, **Ірына і Віктар Муляронак** *(Глыбокае)*, **Іван Каптур** *(Браслаў)*, **Вольга Парневіч** *(в. Крулеўшчына)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Юрый Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Таццяна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Яніна Вяршэль** *(в. Цэнтральная, Іўеўскі р-н)*, **Эма Пашковіч** *(в. Бігосава, Верхнядзвінскі р-н)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Марыя Руткоўская** *(Мінск)*, **Яніна Дулінец** *(в. Савуткі)*, **Таццяна Образава** *(Віцебск)*, **Р.К. Ракуцкая** *(Браслаў)*, **Камелія Емяльянава** *(в. Дунілавічы)*, **Юзэфа Афанасенка** *(Полацк)*, **Эвеліна Клімантовіч** *(в. Бярозаўка, Лідскі р-н)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Рэгіна Сідарэвіч** *(Маладзечна)*, **Станіслава Жук** *(в. Мосар)*, **Лія Мацюшонак** *(в. Прошкава)*, **Яніна Грыбок** *(Мінск)*, **Алімпія Цішко** *(в. Старыя Габы)*, **Ганна Жылевіч** *(в. Цэнтральная, Іўеўскі р-н)*, **Галіна Бука** *(Шаркаўшчына)*, **Раман Цярэнцьеў** *(Полацк)*, **Ядзвіга Вярцінская** *(Глыбокае)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
*вул. Савецкая, 1*
*211800 г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:**
рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 7979

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3600 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 17.12.2015 г. у 10.30

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211800, вул. Савецкая, д.1,
г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь